ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (98) май 2019 год

CATHOLICNEWS.BY

# Парыжанін Алег Зямчонак стаў дыяканам у Віцебскай дыяцэзіі

Стар. 7

## Моладзь з Віцебскай дыяцэзіі сабралася “на маёўку” ў Глыбокім



Стар. 10

## Святая Імша з удзелам дудароў прайшла ў Удзеле



Стар. 6

## Адказы на вашы пытанні на старонцы 11



Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Пантыфік пра хрысціянскі стыль працы цырульніка

**Папа Францішак даў парады цырульнікам-хрысціянам, з якімі сустрэўся 29 красавіка. Ён заклікаў іх браць прыклад са святога Марціна дэ Порэса, нябеснага заступніка прадстаўнікоў гэтай прафесіі.**

Што значыць хрысціянскі стыль працы цырульніка або касметолага? Думкамі пра гэта Папа падзяліўся з гасцямі, якія прыбылі ў Ватыкан у свой выхадны дзень.

Св. Марцін дэ Порэс, нагадаў Папа Францішак, самаахвярна служыў бедным і хворым, дапамагаючы ім праз веды, якія атрымаў, працуючы спачатку ў аптэцы, а потым у цырульні. На думку Папы, пакора і веліч святога можа дапамагчы прадстаўнікам згаданай прафесіі з цярплівасцю сведчыць пра хрысціянскія каштоўнасці.

"Ён заахвочвае вас, перш за ўсё, выконваць вашу працу па-хрысціянску, ветліва і паважліва ставячыся да кліентаў і заўсёды дзелячыся з імі добрым словам падахвочвання, не паддаючыся спакусе плётак, што з лёгкасцю, як вядома, пранікаюць і ў кантэкст вашай працы", – сказаў Святы Айцец. Ён пажадаў італьянскім цырульнікам: "Няхай кожны з вас, выконваючы сваю працу, заўсёды паводзіць сябе сумленна, робячы, такім чынам, станоўчы ўклад у агульнае дабро грамадства".

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*





# Солистка Большого театра первой из женщин получила рыцарский орден от Папы Франциска

**Папа Франциск вручил солистке Большого театра Светлане Касьян рыцарский орден святого Папы Сильвестра, сообщили "Интерфаксу" в Ватикане.**

"Торжественная церемония прошла в воскресенье, в праздник православной Пасхи, и носила закрытый характер. Светлана стала первой женщиной, удостоенной этой награды", – отметил собеседник агентства.

По его словам, таким образом глава Католической церкви отметил благотворительную миротворческую деятельность российской оперной певицы и ее усилия по профилактике абортов в России. Кроме того, Светлана уже четвертый сезон исполняет партию Тоски в Римской опере.

Орден святого Папы Сильвестра – государственная награда Ватикана и младший (пятый по рангу) рыцарский орден Святого Престола. Предназначен он для награждения мирян, имеющих заслуги перед Католической церковью. Награждение производится в основном за профессиональные заслуги, прежде всего в области науки, литературы, искусства. Орденом могут награждаться как католики, так и представители других конфессий.

# У Касцёле расце колькасць свецкіх місіянераў і скарачаецца колькасць святароў

**У перыяд з 2010 па 2017 гг. колькасць католікаў вырасла амаль на 10 адсоткаў.**

З 2010 па 2017 гг. колькасць католікоў ва ўсім свеце вырасла на 9,8 працэнта і ў 2017 годзе дасягнула 1 мільярда 313 мільёнаў. Найбольшы рост адбыўся ў Афрыцы – 26,1%, найменшы – у Еўропе (0,3%). Афрыка знаходзіцца таксама на першым месцы па росце колькасці касцельных акругаў (3%), у той час як у Еўропе лік касцельных акругаў вырас на 1,2 адсотка.

Што датычыцца колькасці прэзбітараў, то за гэты перыяд пік росту прыйшоўся на 2014 год, а затым наступіла паступовае скарачэнне іх колькасці, якое сведчыць пра крызіс пакліканняў. Выключэнне з гэтай тэндэнцыі – Афрыка, дзе колькасць святароў пастаянна павялічваецца: за сем гадоў іх стала на 23,7 адсотка больш.

Цікава адзначыць развіццё інстытуту пастаяннага дыяканату. За разгледжаны перыяд пастаянных дыяканаў у Касцёле стала больш на 18,5 адсотка, уключаючы дыяцэзіяльных дыяканаў і чальцоў манаскіх інстытутаў. Найбольшае развіццё ў апошнія гады пастаянны дыяканат атрымаў у Еўропе.

Паступова скарачаецца колькасць манахаў, якія не прымаюць святы сан: за сем гадоў іх стала менш на 5,7%. Значна скарацілася і колькасць манашак: у сярэднім на 10,1%. Тут, аднак, назіраецца вялікі разрыў паміж кантынентамі: у Амерыцы, Еўропе і Акіяніі скарачэнне колькасці манашак складае ад 16 да 19 і больш адсоткаў, а ў Афрыцы і Азіі, наадварот, іх колькасць вырасла адпаведна на 11,5 і на 4,6 адсотка.

Ва ўсім свеце расце колькасць свецкіх місіянераў: у перыяд з 2010 па 2017 гг. іх стала на 6,1% больш, прычым у Еўропе гэтая лічба ўражвае: колькасць місіянераў-католікаў вырасла больш чым на 80 адсоткаў. Станоўчая дынаміка датычыцца і катэхетаў, за выключэннем Амерыкі і Еўропы.

***Вольга Сакун,*** *руская рэдакцыя Vatican News*

*Пераклад* ***Зьмітра Лупача***



**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# У Шчучыне завяршыліся Дыяцэзіяльныя дні моладзі

**8 мая святой Імшой у парафіі святой Тэрэзы Авільскай у Шчучыне завяршыліся Дыяцэзіяльныя дні моладзі. Гэта быў ужо 26-ы форум маладых людзей Касцёла на Гродзеншчыне.**

**кс. Юрый Марціновіч**, *тэкст;* **Вольга Сяліцкая**, *фота Grodnensis.by*




Імшу, падчас якой удзельнікі дзякавалі Богу за цудоўны дар маладосці, за скарб веры, каторы атрымалі ад папярэдніх пакаленняў, за ласку святога хросту, што ўключыла іх раз і назаўсёды ў супольнасць Хрыстовага Касцёла, узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

У гаміліі біскуп узгадаў пра дэвіз сёлетняй сустрэчы і адзначыў, што Найсвяцейшая Панна Марыя ўсім сваім жыццём служыла і пакінула ўсім пакаленням вернікаў гэты прыгожы прыклад служэння.

Паводле слоў іерарха, са смуткам трэба прызнаць, што сучасны чалавек не любіць слова "служыць". "Сучасны чалавек не хоча нікому служыць: ні іншым людзям, ні Пану Богу. Як калісьці на досвітку гісторыі адзін з анёлаў узбунтаваўся супраць Бога і сказаў: "Не буду служыць!" – так часта чалавек у сваёй пысе і асляпленні адварочваецца ад Бога і не хоча выконваць Яго волі", – дадаў пастыр Касцёла на Гродзеншчыне.

Ён падкрэсліў, што Бог "жадае нашага сапраўднага шчасця больш, чым жадаем яго мы самі, і калі Ён нам штосьці забараняе ці чагосьці не дазваляе, то робіць гэта толькі таму, што нас любіць і ведае: не ўсё служыць нашаму сапраўднаму дабру". Біскуп дадаў, што сумнае жыццё чалавека, які забываецца пра айцоўскую любоў Бога, гэтай любові не давярае або пагарджае ёю. Такі чалавек ніколі не будзе шчаслівы.

Іерарх заахвоціў моладзь Касцёла на Гродзеншчыне ўсвядоміць, што кожнага з нас Пан Бог адорвае якімсьці асаблівым пакліканнем, адкрывае перад намі адзіны і непаўторны, наш уласны шлях.

"Мы ўсе, незалежна ад нашага асабістага жыццёвага шляху, пакліканыя дзяліцца верай, даваць пра яе сведчанне, быць сапраўднымі вызнаўцамі і сведкамі Хрыста Уваскрослага. Наша сведчанне пра Хрыста – словам і ўчынкам – гэта таксама служэнне Богу і іншаму чалавеку", – сказаў біскуп.

На заканчэнне Эўхарыстыі былі выказаны падзякі ўсім, хто паспрыяў арганізацыі гэтага свята, якое з'яднала столькі маладых людзей у адно мэце – супольна славіць Пана.

Падзяка была адрасаваная і самой моладзі, якая, нягледзячы часам на вялікую адлегласць, прыбыла ў Гродна, каб засведчыць сваю прыналежнасць да Хрыстовага Касцёла і паказаць, што хоча і далей жыць з Богам і па прыкладзе Марыі служыць.

Няхай гэты форум моладзі Гродзенскай дыяцэзіі прынясе блаславёны плён – такім было і застаецца жаданне арганізатараў.

Дні моладзі Гродзенскай дыяцэзіі сёлета праходзілі ў Шчучыне з 6 па 8 мая. Іх дэвізам было: "Па прыкладзе Марыі буду служыць Пану". Гэтыя словы працягвалі тэму Сусветных дзён моладзі, якія ў студзені прайшлі ў Панаме пад дэвізам "Вось я, слуга Пана, няхай мне станецца паводле Твайго слова" (Лк 1, 38).

У сустрэчы ўдзельнічалі больш за 1000 чалавек з розных парафій Гродзеншчыны, а таксама прадстаўнікі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Маладых людзей суправаджалі іх душпастыры, сёстры законныя і катэхеты.

## "Не шукайце Бога ў тэлефоне". Апостальскі нунцый маліўся з моладдзю ў Шчучыне

**7 мая ўдзельнікі Дзён моладзі Гродзенскай дыяцэзіі, сабраныя ў Шчучыне, маліліся разам з Апостальскім нунцыем у Беларусі арцыбіскупам Габарам Пінтэрам, разважалі над рэалізацыяй хрысціянскага служэння і знаёміліся з дзейнасцю розных моладзевых груп.**

Як паведамляе партал Grodnensis.by, прадстаўнік Святога Айца ў нашай краіне падчас супольнай Эўхарыстыі з удзельнікамі ДДМ адзначыў, што кожны чалавек і сёння можа быць "маленькай Марыяй": несці свету Хрыста праз любоў і служэнне, пачынаючы з самых блізкіх – сваёй сям'і, сяброў, знаёмых і шырэй – усім, хто шукае праўды, дапамогі, чулага сэрца, нашых рук, нашага часу, малітвы.

Маладыя людзі з вялікай радасцю віталі прадстаўніка Папы, які запэўніў, што Святы Айцец Францішак заўсёды блізка думкамі і сэрцам з моладдзю. Падчас Эўхарыстыі Апостальскі нунцый маліўся за ўсіх маладых людзей, каб яны маглі ўзрастаць у асабістых адносінах з Езусам і, як Марыя, мець адкрытыя на струмень Божай ласкі сэрцы, каб Усемагутны мог змяняць іх так, як жадае.

У прамоўленай гаміліі арцыбіскуп Пінтэр ад імя Папы Францішка, ад імя Касцёла звярнуўся да моладзі, якая, паводле яго слоў, прыгожая і поўная нязгаснага агню маладосці.

"Не бойцеся давярыцца Езусу! Не бойцеся ісці з Ім па дарозе жыцця. Не бойцеся выбраць Яго адзіным Ідэалам, Братам, Сябрам, Узлюбленым! Гэта не толькі самы разумны і мудры выбар: гэта выбар, пра які вы ніколі не пашкадуеце", – заклікаў іерарх.

Ён нагадаў пра прыклад служэння Найсвяцейшай Панны Марыі, над якім разважалі ўдзельнікі шчучынскай сустрэчы.

"Марыя зрабіла свой выбар, пазнаўшы бясконцую любоў Бога да Яе асабіста і да кожнага чалавека: „Вось Я, слуга Пана“. Яна выбрала Бога цэнтрам свайго жыцця, і зрабіла гэта не фармальна, не вобразна, не сімвалічна і не на пэўны час. Яна даверылася Богу ўся, аддаўшы Яму цалкам сваё жыццё, свае мары, сваё цела, сваю прыгажосць, свае сілы, здольнасці, сваю любоў і назаўсёды", – падкрэсліў арцыбіскуп.

Нагадаўшы словы Святога Айца Францішка, яго прадстаўнік звярнуў увагу юнакоў і дзяўчат на тое, што немагчыма пачуць Бога, седзячы на канапе і жывучы ў камфорце.

"У бяздзеянні вы будзеце чуць усё, што заўгодна, акрамя Езуса. Бог адкрываецца ў дзеянні: Ён не статычны. Калі ты не рушыў у дарогу, каб штосьці зрабіць, каб працаваць для іншых, каб сведчыць, каб рабіць дабро, то ніколі не пачуеш голасу Бога. Калі хочаш пачуць голас Пана, выходзь у дарогу", – сказаў прадстаўнік Папы Францішка, заклікаўшы моладзь шукаць Бога ў дыялогу з іншымі.

Арцыбіскуп пры гэтым падкрэсліў, што Пан размаўляе з тымі, хто Яго шукае: "Але не шукайце Яго ў тэлефоне: Езуса там няма, таму што Ён глядзіць табе ў вочы, у сэрца, не марнуе час на мёртвы гаджэт".

Іерарх паабяцаў, што перадасць Папу Францішку тое, што ўбачыў у Шчучыне: радасць веры і любоў, якую маладыя людзі маюць у сэрцах.




У другі дзень Дыяцэзіяльных дзён моладзі юнакі і дзяўчаты таксама мелі магчымасць працаваць у групах, разважаючы над формамі хрысціянскага служэння для моладзі. Разабрацца ў спосабах актыўнага ўдзелу ў жыцці Касцёла і евангелізацыі ім дапамагалі святары з усёй Беларусі.

Акрамя таго, маладыя вернікі прадэманстравалі свае творчыя здольнасці падчас прадстаўленняў парафіяльных груп. У выступленнях кожная парафія імкнулася быць арыгінальнай.

Праз спевы, танцы і невялікія тэатральныя пастаноўкі юнакі і дзяўчаты праслаўлялі Маці Божую. У сваіх выступах-прэзентацыях яны распавялі, чаму навучыла іх Марыя і які прыклад жыцця ім падала.

У сустрэчы моладзі ў Шчучыне бралі ўдзел не толькі прадстаўнікі з іншых дыяцэзій, але і з-за мяжы, робячы яе сапраўднаму міжнароднай і даючы жывы прыклад паўсюднасці Каталіцкага Касцёла ў свеце. Студэнты гродзенскіх ВНУ з Нігерыі, якія з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі моладзевага душпастырства OPEN, прадставілі запальны танец і сарвалі гучныя апладысменты.

*Паводле:*
***кс. Юрый Марціновіч,***
*Grodnensis.by,*
*Catholic.by*

# “Ключы да шчаслівага жыцця”:

## першую хрысціянскую пастаноўку паказалі ў горадзе Сянно



**“Ключы да шчаслівага жыцця” – так называецца ўнікальны спектакль, на якім мне давялося пабываць 29 красавіка ў Сенненскім раённым Цэнтры культуры і народнай творчасці. Гэта была не проста першая хрысціянская пастаноўка ў Сянне.**

**с. Дар'я Галубкова OV**, *тэкст і фота*

Я е рэжысёрам, сцэнарыстам, касцюмерам, музычным і мастацкім афармляльнікам, а таксама выканаўцам галоўнай ролі выступіў пробашч парафіі Святой Тройцы дамініканец а. Міхал Ермашкевіч.

Ідэя сцэнарыя ўзнікла ў а. Міхала 6 студзеня, на свята Аб'яўлення Пана, у Вігілію Божага Нараджэння па праваслаўным календары. Святар разважаў над тым, што шмат хто з людзей не разумее сапраўднага сэнсу нараджэння, мукі і ўваскрасення Хрыста – вызвалення чалавека ад граху і смерці. Сваёй задумкай данесці гэту праўду з дапамогай тэатральнага мастацтва і паставіць сапраўдны спектакль ён падзяліўся са сваімі парафіянкамі Наталляй Латыш і Наталляй Падрэз, якія працуюць па размеркаванні ў Сенненскім Цэнтры. Яны падхапілі яе з энтузіязмам.

– Кіраўніцтва Цэнтра нас падтрымала. Калегі таксама ўспрынялі ідэю новага спектакля з радасцю, далучыліся да падрыхтоўкі. Мы адразу пачалі штотыднёва рэпетыраваць, – распавядае Наталля Латыш, ураджэнка Мінска. – Галоўнай ідэяй нашай п'есы з'яўляецца тое, што зло не спіць, і трэба ўмець распазнаць яго спакусы і не дазволіць яму авалодаць табой пад выглядам добрых намераў. А сапраўдныя ключы да шчасця чалавека мае толькі Езус, Які ўваскрос і перамог злога духа.

Сярод актораў, занятых у п'есе, ёсць як супрацоўнікі Цэнтра, так і наведвальнікі – школьнікі старэйшых класаў. Айцец Міхал аб'яднаў іх усіх у адну каманду і выканаў ролю Злога Духа, каторы з дапамогай сваёй зброі – сямі галоўных грахоў – пасля выгнання з раю робіць усё магчымае, каб авалодаць душамі людзей і перашкодзіць Хрысту іх збавіць.

– Гэта вельмі актуальна ва ўсе часы, – кажа рэжысёр і галоўны акцёр, – бо пасля першароднага граху чалавек страціў гармонію сам з сабой і не заўжды ўмее правільна карыстацца сваёй чалавечай натурай. Некантраляваныя пачуцці, эмоцыі, інстынкты, неўмяркаванасць ва ўсім служыць падставай усіх іншых грахоў. І калі чалавек не будзе ім паддавацца, то, хутчэй за ўсё, не ўчыніць грахоў больш страшных, такіх, як, напрыклад, забойства.

Айцец Міхал прызнаецца, што для яго праца над пастаноўкай была не толькі магчымасцю данесці да людзей Божую праўду, але таксама і сапраўднай асалодай. У свой час ён атрымаў мастацкую адукацыю і спецыяльнасць кіраўніка драматычных калектываў, так што ў тэатры адчувае сябе як рыба ў вадзе. Святар старанна рыхтаваў касцюмы (некаторыя давялося шукаць у Маскве (!), маляваў дэкарацыі, падбіраў музычнае суправаджэнне, якое, на думку гледачоў, вельмі ўпрыгожыла спектакль.

Пасля заканчэння імпрэзы акцёры былі вельмі ўзрушаныя. Наталля Падрэз, што паходзіць з Докшыц, прызнала, што духоўны сэнс, які яны хацелі данесці гледачам, таксама ўразіў іх саміх, трапіў глыбока ў сэрца. Дарэчы, акцёры не збіраюцца спыняцца на гэтым і ўжо рыхтуюцца павезці сваю пастаноўку ў Багушэўск.

На прэм'еру спектакля прыехалі госці з Віцебска: сябры і былыя парафіяне айца Міхала з касцёла св. Барбары і а. Браніслаў Дашкевіч. Прысутны быў таксама Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Ад імя ўсіх гледачоў, якім пашчасціла пабываць на спектаклі, хачу падзякаваць ўсяму творчаму калектыву за цудоўны спектакль, за захапляльны сюжэт і за тое духоўнае пасланне, якое ён нясе. Асаблівую падзяку скіроўваем айцу Міхалу Ермашкевічу, каторы нясе людзям Евангелле не толькі праз святарскую паслугу, але і праз творчасць, праз прыгажосць. Мы ўдзячныя за ягоны прыклад хрысціянскага жыцця і шматлікія таленты, якія айцец Міхал выкарыстоўвае на карысць людзям і хвалу Божую.



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Парафія Св. Міхала Арханёла аб'яўляе гістарычную віктарыну, прысвечаную Любчы

**З нагоды асвячэння каталіцкага храма ў г.п. Любча. Парафія Св. Міхала Арханёла ў Навагрудку да якой належыць вышэйузгаданая мясцовасць, ладзіць гістарычную віктарыну пад назвай: Што я ведаю пра Любчу?**

**■ кс. Юрый Жэгарын**

Любча, мясцовасць багатая на шматлікія гістарычныя падзеі, якія істотна паўплывалі на станаўленне і развіццё хрысціянства заходняга абраду ў самым сэрцы Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Паводле меркаванняў знаўцаў гісторыі, менавіта тут быў збудаваны першы каталіцкі храм на тэрыторыі ВКЛ, а таксама было заснавана першае каталіцкае біскупства на гэтых землях. Запрашаем Вас праверыць і ўзбагаціць свае веды пра Любчу! Жадаем поспехаў!

### Што я ведаю пра Любчу

#### Віктарына

1 Адкуль пайшла назва Любчы?

2 У якім годзе ўпершыню было згадана пра Любчу і ў якіх крыніцах?

3 Каму належала Любча ў часы Вялікага Княства Літоўскага?

4 Ёсць меркаванне, што менавіта ў Любчы быў пабудаваны першы касцёл у Вялікім Княстве Літоўскім. Як думаеце, якога вядомага чалавека, згодна гэтай версіі, тут хрысцілі?

5 У якім месцы ў Любчы першы касцёл на тэрыторыі ВКЛ быў пабудаваны?

6 Калі Любча атрымала Магдэбургскае права і герб?

7 Калі быў узведзены замак у Любчы і на чые сродкі?

8 Калі Любчанскі замак перайшоў Радзівілам?

9 Які жаночы манаскі ордэн у міжваенны час служыў у Любчы?

10 Чым вышэйузгаданы ордэн займаўся ў міжваенны час і дзе была асноўная пляцоўка яго дзейнасці?

11 Калі замак быў спалены і хто быў вінаваты ў гэтым?

12 У якім годзе мінулага XX стагоддзя ў Любчы быў пабудаваны касцёл і да якога часу ён праіснаваў? Што з ім стала?

13 Што вы ведаеце з гісторыі Любчанскай Свята-Ільінскай царквы?

14 У якім годзе і кім была заснавана друкарня, якая існавала ў Любчы ў XVII стагоддзі, у якой друкаваліся кнігі па медыцыне, гісторыі, паэтычныя творы і інш.?

15 Гэты кампазітар – яркая фігура ў гісторыі музыкі, ён стрыечны брат вядомага рускага пісьменніка. Некаторы час жыў у Любчы. Пра каго гаворка?

16 Адна з самых тытулаваных парфумераў свету, якая нарадзілася ў Любчы, аўтар водараў-сімвалаў XX стагоддзя ("Tresor", "Paris", "Eternity for Women", "Sotto Voce" і інш.)

17 Чыё імя носіць Любчанская сярэдняя школа? Што вы можаце расказаць пра гэтага чалавека?

18 Чым славіцца Любча ў харчовай малочнай прамысловасці?

19 Уздоўж якой ракі размясцілася Любча? Якая даўжыня гэтай ракі, па якіх краінах працякае?

20 Як будзе называцца новазбудаваны каталіцкі храм у Любчы і што азначае гэтая назва?

Адказы на пытанні віктарыны дасылайце **не пазней за 15 чэрвеня 2019 года** на адрас: ***г. Навагрудак, вуліца Савецкая, дом 2, Касцёл Святога Міхала Арханёла***, або на электронную пошту ***faiushka@mail.ru***

Імёны і фотаздымкі тых, хто адкажа больш поўна, будуць надрукаваны ў газеце "Каталіцкі Навагрудак".





# Фінальны этап дыяцэзіяльнага конкурсу па веданні Святога Пісання прайшоў у Віцебску

**27 красавіка ў Віцебскай катэдры Езуса Міласэрнага прайшоў фінальны этап дыяцэзіяльнага конкурсу па веданні Святога Пісання. Конкурс быў абвешчаны ў снежні мінулага года, 23 сакавіка адбыўся яго першы, парафіяльны этап, затым дэканальны і вось цяпер апошні – дыяцэзіяльны.**

**■ Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Усяго ў конкурсе прынялі ўдзел 220 дзяцей з дзесяці дэканатаў Віцебскай дыяцэзіі ў дзвюх узроставых катэгорыях: 9-11 гадоў (могуць быць маладзейшыя) і 12-14 гадоў. У фінальны этап прайшлі 42 удзельнікі.

Конкурс адбываўся нва падставе зместу Кнігі Быцця і Евангелля паводле Лукі.

Арганізатарам дыяцэзіяльнага конкурсу біблійных ведаў з'яўляецца Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь.

На заключны этап і падвядзенне вынікаў дзеці разам з катэхетамі прыбылі ў Віцебск з усёй дыяцэзіі.

Напачатку адбылася св. Імша, якую цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч. Пасля малітвы ўсе накіраваліся ў парафіяльную кавярню, дзе, заняўшы адпаведныя месцы паводле рэгістрацыі, каманды разам адказвалі на некаторыя пытанні. Потым, атрымаўшы варыянты пісьмовага задання, кожны сам рабіў тэставае заданне згодна са сваёй узроставай катэгорыяй. Катэхетам таксама не далі сумаваць: с. Дар'я Галубкова падрыхтавала пытанні і для настаўнікаў рэлігіі.

Па выніках пісьмовай часткі па сем чалавек з кожнай катэгорыі прайшлі на вусны этап, дзе павінны былі адказаць на не менш складаныя пытанні.

**Пераможцы дыяцэзіяльнага конкурсу па веданні Святога Пісання:**

**1 катэгорыя:**

**Барыла Даніїл** – парафія Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына), катэхет Галіна Трызна;

**Ушак Мілена** – капліца Святога Юзафа (Друйск, Мёрскі дэканат), катэхет с. Лілія Дарожка;

**Вілінец Вікторыя** – парафія Святога Антонія Падуанскага (Віцебск), катэхет с. Мажэна Вельгус;

**2 катэгорыя:**

**Панько Дамініка** – парафія Святога Антонія Падуанскага (Віцебск), катэхет с. Мажэна Вельгус;

**Аляхновіч Дарына** – парафія Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына), катэхет Галіна Трызна;

**Руткоўскі Станіслаў** – парафія Узвышэння Святога Крыжа (Шаркаўшчына), катэхет Галіна Трызна.

Кожны ўдзельнік атрымаў дыплом і памятныя падарункі, якія падрыхтавалі валанцёры "Карытас". Таксама без увагі арганізатары не пакінулі і катэхетаў.

С. Дар'я Галубкова ўжо загадзя запрашае на наступны год да ўдзелу ў Другім дыяцэзіяльным конкурсе па веданні Святога Пісання.



# Віталь Воранаў: "Чаму не пазычыць тое, што прыгожае?!"

**Сёлета на Глыбоччыне з 3 па 5 мая ў трэці раз прайшоў Міжнародны фэст дударскіх рэгіёнаў "Дударскі рэй".**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Стала ўжо добрай традыцыяй, што заканчваецца ён у нядзелю ў ўдзельскім храме. Мы спыталі ў галоўнага арганізатара фэсту Віталя Воранава, адкуль узнікла гэта традыцыя.

– Я падгледзеў гэтую ідэю на іншых дударскіх фэстах у Польшчы і Славакіі. Калі там адбываецца дударскі фэст, то апошні яго дзень прыпадае на нядзелю. Таму заканчваецца ўсё службай у касцёле.

У нас гэта быў даволі новы нетыповы звычай, асабліва нечаканы для дударскага асяроддзя. Але, даследуючы гістарычныя крыніцы, удалося знайсці звесткі пра тое, што недзе ва ўніяцкай царкве быў такі час, калі замест арганаў гучала якраз беларуская дуда. Так што і ў нашай гісторыі такая практыка была.

Дык чаму не ўзяць тое, што прыгожае, і аб'яднаць вось гэту выдатную акустыку касцёла, асабліва гэтую неверагодную акустыку ўдзельскага храма, з народнай музыкай, з нацыянальнымі інструментамі, з касцюмамі? Гэта ўсё насамрэч прыгожа, урачыста, і калі маем благаславенне айцоў-францішканаў, то мы з вялікім задавальненнем сюды прыязджаем. Сёлета ўжо ў трэці раз прыехалі ў гэтую святыню, каб іграць падчас набажэнства.

На Імшы гучаць касцельныя песні і спевы, а ўжо пасля заканчэння службы і блаславення музыканты даюць невялікі канцэрт, прадстаўляючы сваю дударскую традыцыю, свой рэгіён. І заўсёды гэта заканчваецца тым, што музыкі ўрачыста выходзяць пад гукі сваёй музыкі. Дарэчы, парафіяне Удзельскай парафіі вельмі цёпла прымаюць усіх гасцей, аддаюць ім даніну павагі, заўсёды ўстаюць, каб з апладысментамі праводзіць музыкантаў з касцёла. Таму гэта такая прыгожая, узнёслая падзея, якая дазваляе адпачыць, задумацца над вечным пасля гуляння, забаваў, няспынных канцэртаў і весялосці.

***

Віталь Воранаў – беларускі перакладчык, літаратар, выдавец, публіцыст і ўніверсітэцкі выкладчык. У 1996 годзе ў 12-і гадовым узросце ён пераехаў разам з бацькамі ў Польшчу. Жыве ў Познані, выкладае ва ўніверсітэце, перакладае з чэшскай, польскай і англійскай моваў. У 2017 годзе арганізаваў у Глыбокім першы "Дударскі фэст", які сёлета прайшоў у трэці раз.



# Святая Імша ў Удзеле прайшла пад акампанемент польскіх дудароў



**Адбылося гэта ў нядзелю, 5 мая, у апошні дзень III Міжнароднага фэсту "Дударскі рэй", які праходзіў на Глыбоччыне з 3 па 5 мая.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Стала ўжо добрай традыцыяй, што фэст завяршаецца ў касцёле Беззаганнага Зачацця Панны Марыі ў Удзеле. Арганізатар фэсту Віталь Воранаў лічыць Удзела сваёй малой радзімай, бо тут жылі яго дзядуля і бабуля, таму і завяршаецца святочная праграма менавіта там. Тым больш, што выступ дудароў падабаецца і святарам, і парафіянам.

На жаль, у гэтым годзе ўдзельнікі фэсту з Македоніі і Харватыі мусілі паехаць раней, таму ў Удзела завіталі толькі дудары з Польшчы і арганізатар фэсту Віталь Воранаў. Перад пачаткам набажэнства яны ўрачыста ўвайшлі ў храм, іграючы на сваіх інструментах. Дудары з Польшчы Адам і Каміль Кнобель, а таксама скрыпачка Караліна Коцік упрыгожылі сваёй ігрой святую Імшу.

Адметнасцю гэтай Імшы стала і тое, што падчас яе прынялі хрост двое дзяцей – Ксенія і Мікіта. Перад пачаткам Імшы пробашч парафіі айцец Яраслаў Банасяк сустрэў бацькоў і хросных на ўваходзе ў храм і спытаў у іх, ці сапраўды яны хочуць, каб дзеці далучыліся да каталіцкай супольнасці. Атрымаўшы адказ "Так", святар разам з міністрантамі прайшоў да алтара і распачаў святочнае набажэнства. На самым яго пачатку ксёндз акрапіў вернікаў святой вадой.

У сваім слове да прысутных ён звярнуў увагу на ўрывак з Евангелля, які чытаўся падчас Імшы. У ім гаварылася, як вучні Хрыста сустракаюць свайго Настаўніка пасля Яго Уваскрасення. Ён хоча есці і просіць сваіх вучняў яшчэ раз закінуць сетку. Перад гэтым вучні нічога не злавілі, а тут здараецца цуд – поўная сетка рыбы. І толькі тады яны пераконваюцца, што перад імі сапраўды Езус Уваскрэслы.

Айцец Яраслаў правёў паралель з цяперашнім часам, калі мы таксама ходзім у нядзелю ў касцёл, прымаем Камунію, але да канца не верым у Езуса Хрыста. Атрымліваецца, што Бог прысутнічае ў нашым жыцці толькі ад нядзелі да нядзелі. А большасць католікаў наогул ходзіць у храм толькі для таго, каб асвяціць вербы або стравы на велікодны стол. "Езус чакае нас тут, у святыні, кожную нядзелю ў выглядзе хлеба і віна, таму не трэба прапускаць сустрэчу з жывым Езусам," – заклікаў айцец Яраслаў. Ён таксама звярнуў увагу, што Бог павінен прысутнічаць у нашым жыцці кожны дзень.

Пасля гамілії айцец Яраслаў удзяліў сакрамант хросту Ксеніі і Мікіту, далучыўшы такім чынам іх да супольнасці каталіцкага Касцёла.

Напрыканцы святой Імшы вернікі разам са святаром памаліліся Літаніяй да Маці Божай, пасля чаго адбылася працэсія вакол касцёла. У ёй удзельнічаў таксама і мастак Алесь Пушкін, які разам з сынам Мікалаем адмыслова прыехаў на дударскі фэст і ўдзельнічаў ва ўсіх яго мерапрыемствах, у тым ліку і ў гэтай Імшы.

Пасля заканчэння Імшы да пробашча і вернікаў звярнуўся Віталь Воранаў. Ён падзякаваў святару і сваім землякам за тое, што яны заўсёды так цёпла сустракаюць музыкаў у сваім храме. Спадар Віталь падарыў айцу Яраславу дударскі каляндар і прэзентаваў сваю кнігу "Дудары Глыбоцкага краю". Дарэчы, гэта кніга была выдадзеная з дапамогай супрацоўнікаў "Каталіцкага Весніка".

А пасля польскія музыкі далі невялікі канцэрт для парафіянаў, які ім вельмі спадабаўся.

Апошнім выступіў Віталь Воранаў. Ён зайграў на копіі глыбоцкай дуды, якую сам у мінулым годзе адшукаў у віленскім музеі. На гэты час віленская дуда лічыцца найстарэйшай у Беларусі. Вырабіў яе копію майстар Сяргей Чубрык.

Віталь Воранаў – беларускі перакладчык, літаратар, выдавец, публіцыст і ўніверсітэцкі выкладчык. У 1996 годзе ў 12-і гадовым узросце пераехаў разам з бацькамі ў Польшчу. Жыве ў Познані, выкладае ва ўніверсітэце, перакладае з чэшскай, польскай і англійскай моваў. У 2017 годзе арганізаваў у Глыбокім першы "Дударскі фэст", які сёлета прайшоў ужо трэці раз.

# Парыжанін Алег Зямчонак стаў дыяканам у Віцебскай дыяцэзіі

**28 красавіка 2019 года, у свята Божай Міласэрнасці, у катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску адбылася вялікая ўрачыстасць.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Вернікі адзначылі не толькі парафіяльны фэст. У гэты дзень дыяканскае пасвячэнне з рук Яго Эксцэленцыі біскупа Алега Буткевіча атрымаў клерык Алег Зямчонак. Семінарыст паходзіць з аг. Парыж, што ў Пастаўскім дэканаце. Фармацыю праходзіў у духоўных семінарыях у Пінску і апошнія чатыры гады ў Санкт-Пецярбургу (Расія).

На ўрачыстай св. Імшы разам з віцебскім ардынарыем у інтэнцыі кандыдата да дыяканату маліліся кс. Канстанцін Перэдзерый, рэктар духоўнай семінарыі "Марыя – Каралева Апосталаў" у Санкт-Пецярбургу, кс. Уладзімір Заянчкоўскі з Лепеля, былы пробашч у Парыжы, пры якім дыякан распазнаў сваё пакліканне, кс. Валеры Орсік з Оршы і афіцыял біскупскага суда кс. Аляксей Ляшко.

Пасля Літургіі слова кс. Валеры, у парафіі якога семінарыст апошні час праходзіў практыку, звярнуўся да біскупа з просьбай удзяліць пасвячэнне дыяканату і засведчыў, што кандыдат падрыхтаваны і гатовы прыняць пасвячэнне.

Гамілію прамовіў пастыр дыяцэзіі. Іерарх прыгадаў функцыю дыяканаў у Новым Запавеце, якая заключалася ў абслугоўванні сталоў. Далей яна ператварылася ў больш літургічную. Тым не менш, гэтае заданне – бачыць перад сабой чалавека ў патрэбе – застаецца. І, між іншым, на тым, хто робіць першыя крокі да святарства. Іерарх таксама ўзгадаў постаць дыякана першамучаніка Стэфана, які перад абліччам смерці не адрокся веры.

Наступнай часткай Літургіі сталі абяцанні, якія кандыдат складае на рукі біскупа. Потым усе прысутныя маліліся Літаніяй да ўсіх Святых, падчас якой семінарыст ляжаў крыжам перад алтаром. Затым адбылося ўскладанне рук і малітва. Дыякан, апрануўшы стулу і дальматыку, атрымаў Евангелле з рук біскупа і знак супакою.

На заканчэнне ўрачыстасці словы ўдзячнасці новапасвечаны дыякан Алег скіраваў перш за ўсё Усемагутнаму Богу за дар паклікання і Маці Божай за асаблівую апеку на жыццёвым шляху, а таксама біскупу Алегу, прысутным святарам, маці і ўсім вернікам.







# Кс. Сяргей Сурыновіч абараніў у Польшчы доктарскую дысертацыю па біблійнай тэалогіі

**24 красавіка ва Універсітэце кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве (Польшча) адбылася абарона доктарскай дысертацыі кс. Сяргея Сурыновіча, які нясе служэнне пробашча ў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі (Віцебская дыяцэзія).**

Абароненая праца была напісана на кафедры экзэгетыкі Новага Запавету тэалагічнага факультэта Інстытута біблійных навук на тэму "Прынцыпы ўтварэння антрапонімаў і тапонімаў у перакладах Новага Запавету на сучасную беларускую мову".

Абароне папярэднічала напісанне дысертацыі, якое працягвалася пяць гадоў. У працэсе абароны адбыўся экзамен па спецыяльнасці "Біблійная тэалогія". Гэта навука, што ў сукупнасці з біблійнай інтрадукцыяй і біблійнай экзэгетыкай складае дысцыпліну пад агульнай назвай "Бібліістыка".

У сваіх навуковых даследаваннях кс. Сяргей Сурыновіч, кіруючыся гістарычна-крытычным метадам, аналізуе антрапонімы і тапонімы семіцкага, грэцкага і лацінскага паходжання ў перакладах Новага Запавету на сучасную беларускую мову, зробленых у 1914 – 2017 гадах.

Аўтар прадстаўляе шырокі спектр праблем разнастайнасці і шматпланавасці спробаў разумення і інтэрпрэтацыі, этымалогіі і транскрыпцыі ўласных імёнаў і геаграфічных назваў згодна з агульнымі характарыстыкамі біблійнага, тэалагічнага і лінгвістычнага кірункаў. Ён праводзіць паслядоўны аналіз адпаведна рэлігійнай і гістарычнай, лінгвістычнай і перакладчыцкай, тэалагічнай і канфесійнай традыцый, падае абгрунтаваныя высновы і перспектывы развіцця біблійнай анамастыкі.

Доктарская дысертацыя кс. Сяргея Сурыновіча, напісаная пад навуковым кіраўніцтвам прафесара-бібліста кс. Януша Крэцідлы, з'яўляецца першай і наватарскай спробай навуковага аналізу азначанай тэмы і ахоплівае ўсе пераклады Новага Запавету на сучасную беларускую мову.

**Даведка**

Кс. Сяргей Сурыновіч нарадзіўся 13 красавіка 1976 г. у вёсцы Лугамавічы Іўеўскага раёна ў сям'і настаўніка. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў духоўных семінарыях у Гродне і Санкт-Пецярбургу. Нёс святарскае служэнне ў розных парафіях на тэрыторыі Расіі, пасля вяртання ў Беларусь быў пробашчам парафіі Святога Духа ў Віцебску і парафіі Божага Провіду ў Слабодцы (Браслаўскі дэканат). Цяпер нясе служэнне пробашча ў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі.

*Catholic.by*

# Каляндар



**Чэрвень прысвечаны Сэрцу Езуса. Чэрвеньскія набажэнствы на ўшанаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса маюць багатую гісторыю, якая ідзе з канца XIX ст. Чэрвеньскае набажэнства – гэта малітоўная практыка, праз якую мы хочам выказаць нашую ўдзячнасць за тую вялікую любоў, каторай нас адорвае Езус Хрыстус. Гэтае набажэнства складаецца з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

**9 чэрвеня – урачыстасць Нядзелі Спаслання Святога Духа.**



Пяцідзясятніца – урачыстасць Спаслання Святога Духа, якая адзначаецца ў пяцідзясяты дзень пасля Вялікадня (у нядзелю праз сем тыдняў). Назва паходзіць ад старажытнагабрэйскага свята Пяцідзясятніцы, якое адзначалі на ўспамін пра дараванне Богам закона на гары Сінай. Гэтае старазапаветнае свята з'яўляецца правобразам спаслання апосталам і ўсім хрысціянам Святога Духа.

Святкаванне дня Спаслання Святога Духа пачынаецца яшчэ ў апостальскія часы, але афіцыйна гэтае свята ўвайшло ў хрысціянскі каляндар у канцы IV ст., калі быў прыняты дагмат аб Найсвяцейшай Тройцы.

У хрысціян захавалася старазапаветная традыцыя ўпрыгожваць у гэты дзень святыні і дамы зялёнымі галінкамі бярозы, дуба і кветкамі, што сімвалізуе веру ў жыватворную сілу Духа. Акрамя таго, гэтая традыцыя таксама нагадвае нам мамрыйскі дуб, дзе патрыярха Абрагама наведала Найсвяцейшая Тройца ў постацях трох падарожнікаў *(Быц. 18, 1–16)*.

Свята Спаслання Святога Духа – падзея першаступеннай важнасці ў жыцці Касцёла, бо яна завяршае ўтварэнне Касцёла Хрыстовага і сцвярджае таямніцу святасці. У гэты дзень, калі Святы Дух сышоў на апосталаў у выглядзе вогненых языкоў, апосталы ўмацаваліся ў сваёй веры, атрымалі моц для сусветнага прапаведавання Евангелля. У гэтай незвычайнай падзеі раскрываецца сутнасць нашай веры ў "адзіны святы каталіцкі апостальскі Касцёл".

Касцёл адзіны на вобраз таго, што апосталы ў дзень Пяцідзясятніцы былі адзінадушна разам у малітве. Святасць Касцёла вызначаецца тым, што пад натхненнем Святога Духа ён сведчыць пра Хрыста. Каталіцкі (што абазначае паўсюдны) Касцёл – таму што Евангелле прызначана для ўсіх народаў, менавіта з гэтай прычыны ад самага пачатку Святы Дух дае Касцёлу дар разумення іншых моў. Касцёл Апостальскі – таму што заснаваны на падмурку апосталаў, ён верна захоўвае іх (апостальскае) навучанне сродкамі непарыўнай пераемнасці біскупаў.

Па сваёй прыродзе Касцёл місійны, а гэта значыць, што пры садзеянні Святога Духа накіраваны на распаўсюджванне Евангелля ва ўсім свеце. Таму абавязкам кожнага хрысціяніна таксама з'яўляецца абвяшчэнне Добрай Навіны іншым людзям.

**11 чэрвеня – успамін св. Барнабы, апостала.**



Святы апостал Барнаба нарадзіўся на востраве Кіпр у сям'і багатых габрэяў і быў названы Юзафам. Адукацыю ён атрымаў у Ерусаліме, дзе вучыўся разам са сваім сябрам і равеснікам Саулам (будучым апосталам Паўлам) у знакамітага на той час настаўніка Гамаліїла.

Юзаф быў пабожным, часта наведваў храм, строга выконваў пасты, захоўваў сябе ад юнацкіх захапленняў. У той час Езус Хрыстус пачаў прапаведаваць. Убачыўшы Пана і пачуўшы Яго словы, Юзаф паверыў у Яго як у Месію, загарэўся любоўю да Яго і пайшоў за Ім. Хрыстус выбраў яго ў ліку 70 вучняў. Сярод паслядоўнікаў Езуса Хрыста Юзаф атрымаў другое імя – Барнаба, што па-габрэйску азначае "сын суцяшэння". Пасля Узнясення Хрыста на неба Барнаба прадаў зямлю, якая належала яму, і прынёс грошы да ног апосталаў, нічога не пакінуўшы сабе *(Дз 4, 36–37)*.

Барнаба першы прывёў святога Паўла ў хрысціянскую супольнасць у Ерусаліме. Потым зноў яго знайшоў і прывёў у Антыёхію, а пасля парады Святога Духа суправаджаў Апостала народаў падчас яго першага місійнага падарожжа ў Малую Азію.

Пасля ерусалімскага Сабору разам з Маркам ён вяртаецца на Кіпр. Паспрыяўшы павелічэнню там колькасці вернікаў, праз нейкі час выпраўляецца ў Рым, дзе, магчыма, першы прапаведаваў Хрыста.

Апостал Барнаба заснаваў біскупскі пасад у Медыялане (цяпер Мілан), а па вяртанні на Кіпр працягваў прапаведаваць Хрыста-Збаўцу. Тады раздрытаваныя юдэі падбухторылі язычнікаў супраць апостала, вывелі яго з горада, пабілі камянямі і расклалі вогнішча, каб спаліць цела. Пазней, прыйшоўшы на гэтае месца, Марк узяў пакінутае цэлым цела апостала і пахаваў у пячоры, паклаўшы на грудзі перапісанае яго ўласнай рукой Евангелле ад Мацвея.

Памёр апостал Барнаба каля 62 года на 76-м годзе жыцця. З цягам часу месца пахавання апостала ў пячоры было забыта. Але шматлікія знакі былі паказаны на гэтым месцы. У 448 годзе пры імператару Зянону апостал Барнаба тройчы з'яўляўся ў сне архіепіскапу Кіпра Анфіму і паказваў месца пахавання сваіх мошчаў. Пачаўшы капаць у названым месцы, хрысціяне знайшлі нятленнае цела апостала. У якога на грудзях ляжала святое Евангелле. Імя святога апостала Барнабы сустракаецца ў Рымскім Каноне.

Святога Барнабу называюць "Апосталам Кіпра" і просяць у яго абароны ад сварак, ад смутку і ад граду.

**16 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.**



**18 чэрвеня – гадавіна пасвячэння катэдры ў Віцебску.**



**20 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста.**



Каталіцкі Касцёл святкуе ўрачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста. Яна адзначаецца ў чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы як напамін пра ўстанаўленне Сакраманту Эўхарыстыі ў Вялікі чацвер.

Распаўсюджаная назва ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста – Божае Цела. У цэлебрацыі гэтай урачыстасці Касцёл складае падзяку Збаўцу за дар Найсвяцейшага Сакраманту, у якім Ён сам прабывае са сваім народам.

У гэты дзень або ў наступную пасля яго нядзелю адбываецца працэсія, у якой Найсвяцейшы Сакрамант з пашанаю нясуць па вуліцах гарадоў і вёсак.

Святкаванне ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста бярэ свой пачатак з XIII стагоддзя. Ініцыятаркай святкавання гэтай урачыстасці была святая Юліяна з Карнілії. У 1245 годзе ў кляштары аўгусцінак у Монт Карніліён, паблізу Льежа (Бельгія), яна была ўдастоена аб'яўлення Езуса Хрыста, у якім Хрыстус папрасіў пра стварэнне асобнага свята ў гонар Найсвяцейшай Эўхарыстыі.

Езус Хрыстус сам прызначыў дзень святкавання Божага Цела (Corpus Christi) – чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Біскуп Льежа Робэрт пасля гутаркі са сваёй радай, а таксама неадкладнага разгляду гэтага аб'яўлення вырашыў выканаць жаданне Езуса Хрыста. У 1246 годзе адбылася першая эўхарыстычная працэсія. Аднак у тым жа самым годзе біскуп Робэрт памірае.

Найвышэйшае духавенства горада на нарадзе тэолагаў прызнае дзеянні ардынарыя заўчаснымі, а святкаванне ўрачыстасці пад такой назвай у значнай ступені непрыстойным. ⇨

## На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 чэрвеня** – дзень нараджэння і дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*;

**3 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, імяніны адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*;

**9 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**11 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валеры Марціноўскі** *(Люблін)*; дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*;

**13 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*; дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Дулінец** *(Расоны)*;

**15 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*;

**17 чэрвеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Анджэй Бульчак** *(Паставы)*, **а. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*;

**19 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*;

**20 чэрвеня** – імяніны адзначае **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*;

**21 чэрвеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**23 чэрвеня** – імяніны адзначае **а. Зэнон Шчончар MS** *(Відзы)*;

**24 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**27 чэрвеня** – імяніны адзначае **біскуп Уладзіслаў Блін**;

**29 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*, дзень нараджэння і імяніны **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Ваўкалата)*.

*Падрыхтаваў* ***Зміцер Лупач***

# на чэрвень

⇨ Святая Юліяна ледзьве не абвінавачвалася ў ерасі, за гэта яна была пераведзена з манастыра Монт Карнілія ў правінцыю. Па просьбе Якуба (Жака Панталеона), архідыякана катэдры Льежа, кардынал Уга пасля паўторнага разгляду справы зацвердзіў свята. У 1251 годзе пад кіраўніцтвам архідыякана Якуба па вуліцах Льежа адбылася зноў эўхарыстычная працэсія. У 1264 годзе Папа Урбан IV, былы льежскі архідыякан Якуб, увёў святкаванне ўрачыстасці Божага Цела ў Рыме.

Непасрэдным штуршком для ўстанаўлення свята стаў цуд, які адбыўся ў Бальсэне. Калі там святар цэлебраваў святую Імшу, пасля паднясення паставіў келіх так няўдала, што некалькі кропляў крыві Хрыста праліліся на карпарал. Святар заўважыў, як віно – сімвал крыві Збаўцы – ператвараецца ў сапраўдную Кроў Хрыста. Карпарал з кроплямі крыві Езуса Хрыста знаходзіцца да гэтага часу ў катэдры горада Арвіета.

Папа Ян XXII пашырыў свята Corpus Christi на ўвесь Каталіцкі Касцёл, а з часоў Папы Урбана VI яно з'яўляецца адным з галоўных святаў літургічнага года Касцёла.

**24 чэрвеня – урачыстасць Нараджэння Святога Яна Хрысціцеля.**



Святы Ян Хрысціцель з'яўляецца апошнім старазапаветным прарокам, які сваім жыццём закрывае эпоху Старога Запавету і выступае прарокам новай фармацыі – Новага Запавету. Ён нарадзіўся на паўгода раней за Хрыста і ў маладым узросце адасобіўся ў Юдэйскай пустыні, дзе вёў вельмі строгае аскетычнае жыццё. Там ён адчуў пакліканне абвяшчаць набліжэнне Божага валадарства і пачаў удзяляць хрост пакаяння ў Іардане. Вакол яго сабралася супольнасць вучняў, да якой спачатку належалі і некаторыя з апосталаў (Андрэй, Ян). Прыняць ад яго хрост прыйшоў Сам Езус. Як і любы прарок, св. Ян Хрысціцель сустракаў на сваім жыццёвым шляху перашкоды, абыякавасць і варожасць.

**28 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

У Каталіцкім Касцёле гэта свята, прысвечанае ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста, адзначаецца ў пятніцу, на восьмы



дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела Хрыста і на дванаццаты дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Хрыста з'яўляецца сімвалам любові Бога да людзей. Такім чынам, гэтае свята адлюстроўвае падзяку Богу за Яго любоў і дараванае збаўленне. У літургічным календары ўрачыстасць Сэрца Езуса з'явілася параўнальна нядаўна – яна была ўстаноўлена Папам Піем IX у 1856 годзе. Яе ўстанаўленне стала замацаваннем ужо існай шматвяковай традыцыі асаблівага шанавання Сэрца Збаўцы. Своеасаблівы штуршок у развіцці ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў звязаны з імем законнай сястры Маргарыты Марыі Алякок. Гэтай манахіні, якая жыла ў XVII стагоддзі, Збаўца з'яўляўся некалькі разоў і выказаў жаданне, каб Яго Сэрца ўшаноўвалася ва ўсім свеце. Сястра Маргарыта была ўганараваная некалькімі аб'яўленнямі: Сэрца Езуса з'явілася ёй на вогненным троне ў церновым вянку са знакам крыжа. Езус, паказваючы на свой прабіты бок, папракаў людзей у няўдзячнасці пралітай Ім на крыжы крыві. Якую ахвяру ўміласціўлення трэба прынесці Хрысту за грахоўную бяздушнасць людзей? У тыя часы яшчэ не было звычаю частага прыняцця святой Камуніі, і Езус так загадаў с. Маргарыце: "Прымай Камунію ў першую пятніцу кожнага месяца, а ўначы з чацвера на пятніцу, упаўшы ніцма, маліся перад Святымі Дарамі!"

У адным з наступных аб'яўленняў Езус Хрыстус загадаў на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела праслаўляць Яго Сэрца як ахвяру ўміласціўлення за няўдзячнасць людзей, што адмаўляюць Яго любоў. Асабліва Езус дакараў у няўдзячнасці тых, каго Ён у сваёй дабрыні паклікаў на служэнне сабе і святому Касцёлу, якія вядуць лад жыцця, нявартага такога ўзнёслага звання.

Тое, што ўчыніў Збаўца нікому дагэтуль не вядомай манахіні, стала прапаведавацца ва ўсім Касцёле, на ўсіх кантынентах. Стварыліся манаскія ордэны і супольнасць Святога Сэрца Езуса. Сэрцу Хрыста прысвячаліся парафіі, школы, лякарні, храмы. Самым вядомым храмам, прысвечаным Сэрцу Езуса, з'яўляецца базыліка Сакрэ-Кёр у Парыжы. Аднак не абышлося і без супярэчнасцяў. Ушаноўваць цялеснае сэрца здавалася непаважлівым у адносінах да Бога. Некаторыя павучальныя кнігі пра гэты новы культ крытыкаваліся і нават забараняліся. Былі цяжкасці і іканаграфічнага парадку: ці можна наогул і як адлюстроўваць канкрэтнае сэрца?

У XVI стагоддзі, асабліва дзякуючы ордэну езуітаў, культ Сэрца Езуса дасягае апагею. У 1672 г. айцец Ян Эд, які быў спаведнікам сястры Маргарыты Марыі Алякок, адслужыў з дазволу біскупа першую святую Імшу ў гонар Сэрца Езуса Хрыста. Апостальская Сталіца на працягу ста гадоў не абвяшчала новае свята афіцыйна. Першы дазвол быў атрыманы польскімі біскупамі ад Папы Клімента XII у 1765 годзе, а ў 1856-ым Папа Пій IX увёў літургічнае святкаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса як абавязковае для ўсяго Касцёла. Папа Пій XII прысвяціў ушанаванню Сэрца Езуса спецыяльную энцыкліку ў 1956 г. Ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса пасля прыняцця святой Камуніі чытаецца малітва, у якой выказваецца просьба, каб Сэрца Езуса, у Якім свет адкрывае сапраўдную прыроду Бога, навучыла нас бачыць Хрыста ва ўсіх людзях.

У сучасным касцельным календары Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса, акрамя спецыяльнай урачыстасці, прысвечана кожная пятніца, а таксама ўвесь чэрвень.

**29 чэрвеня – урачыстасць Святых Пятра і Паўла, апосталаў.**



Святыя Апосталы Пётр і Павел з'яўляюцца заснавальнікамі і падмуркам Касцёла. Наступнікам Пятра ёсць Папа Рымскі, які працягвае яго служэнне ў Касцёле.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***



# Пяцідзясятніца

*Кожны, хто любіць ўласнае збаўленне, робіцца жыллём Духа Святога*
*(Святы Эфрэм Сірын)*

**Што Вы ведаеце пра свята Пяцідзясятніцы? Праверце свае веды ў новым тэсце "Каталіцкага Весніка".**

1 На які дзень пасля Вялікадня святкуецца Спасланне Святога Духа?



**А.** На 40
**Б.** На 50
**В.** Залежыць ад дня святкавання Вялікадня

2 У якой кнізе Новага Запавету апісваюцца падзеі, што адбыліся ў дзень Пяцідзясятніцы?



**А.** Евангелле ад Лукі
**Б.** Дзеі Святых Апосталаў
**В.** Апакаліпсіс Святога Яна

3 У якім выглядзе на апосталаў сышоў Святы Дух?



**А.** Быў нябачны
**Б.** Праліўся ў выглядзе дажджу
**В.** У выглядзе агню

4 У якой новазапаветнай кнізе змяшчаецца прадказанне Збаўцы пра Спасланне Святога Духа?



**А.** у Евангеллі ад Марка
**Б.** у Евангеллі ад Яна
**В.** у Евангеллі ад Лукі і Дзеях апосталаў

5 Хто з апосталаў у дзень Пяцідзясятніцы ўпершыню прамовіў да жыхароў Ерусаліма?



**А.** Апостал Павел
**Б.** Апостал Пётр
**В.** Апостал Тамаш

6 На каго з прарокаў спасылаўся апостал Пётр, тлумачачы жыхарам Ерусаліма дзіўныя паводзіны апосталаў (казанне на розных мовах)?



**А.** На прарока Ісаю
**Б.** На прарока Ерамію
**В.** На прарока Ёэля

7 Хрысціянскае свята Пяцідзясятніцы прысвечана Спасланню Святога Духа на апосталаў. А чаму прысвечана старазапаветная Пяцідзясятніца (габрэйскае свята Шавуот)?




**А.** Выходу габрэяў з Егіпта
**Б.** Дараванню Торы
**В.** Уваходжанню габрэяў у "зямлю абяцаную"

8 Як з габрэйскай мовы перакладаецца "Ruah"?




**А.** Дыханне, вецер, паветра
**Б.** Агонь, полымя, любоў
**В.** Вада жыцця

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 16**

# Моладзь з Віцебскай дыяцэзіі сабралася “на маёўку” ў Глыбокім

**Душпастырства моладзі Віцебскай дыяцэзіі 1 мая сабрала 75 маладых людзей у Глыбокім на міжпарафіяльную сустрэчу.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Прадстаўнікі разам са сваімі святарамі і манахінямі прыбылі з Віцебска, Наваполацка, Падсвілля, Варапаева, Друі, Паставаў і ўласна Глыбокага.

Спатканне распачалося святой Імшой, якую цэлебраваў кс. Алег Хмылко, душпастыр моладзі, разам з глыбоцкім пробашчам кс. Мікалаем Ціхановічам і а. Андрэеем Вашчуком з парафіі Святога Духа ў Віцебску.

Падчас гаміліі, якую прамовіў а. Андрэй, святар звярнуў увагу, што малады чалавек – гэта апостал сучаснага свету. “Чаму? Каб сучаснаму звар’яцеламу свету паказаць, што вы – дзеці Божыя, што вы належыце да Хрыста і што ёсць нешта іншае ў гэтым свеце, а не толькі розныя зямныя справы”.

Пасля Імшы кс. Алег прамовіў для моладзі канферэнцыю пра іх удзел і месца ў жыцці касцёла. Святар заклікаў маладых людзей быць больш актыўнымі і адкрытымі, асабліва выязджаючы вучыцца ў іншыя гарады, раіў шукаць каталіцкія суполкі і самім далучацца, а не чакаць, што хтосьці калісьці іх пакліча. Калі малады чалавек сам у сабе не адкрые прагу да ўдзелу ў супольнасці і патрэбу несці Хрыста іншым, то вынік можа быць не вельмі добрым.

Пасля духоўнай часткі сустрэчы распачалася забаўляльная імпрэза з гульнямі і танцамі на свежым паветры.






## Ці змаглі б Вы адпусціць сваё дзіця ў семінарыю / кляштар?



- так, жадаю яму/ёй шчасця – 253 адказы;
- не, гэта вышэй за мае сілы – 27 адказаў;
- не ведаю адказу – 96 адказаў;
- ён/яна ўжо там – 24 адказы;
- іншы адказ – 16 адказаў.

**Усяго – 416 адказаў**

### Каментарыі



**Sergey Sandaluyk:** “Гэта яго справа”.



**АННА БОНДАРЕВИЧ (КРУГОВАЯ):** “Детей нужно отпускать и уважать их выбор!”

**Helena Karotkina:** “Сын ужо выказваў думку, што можа стаць святаром. Калі рашэнне застанецца і надалей, я яго падтрымаю”.

**Valer Mšar:** “Родить и воспитать троих детей, чтобы они не имели потомства?”

Прекрасное "счастье" для родителей.

**Люция Василевская (КОЛОС):** “У кожнага свае прызванне... І, вядома, не бацькоў гэта рашэнне, а выбар дзяцей... Самае галоўнае, каб яны адчувалі сябе патрэбнымі у сваёй веры... Будуць шчаслівыя дзеці, будуць задаволены і бацькі...”

**Лидия Володько (Захаревич):** “Я рада за выбар дзяцей – у кожнага свая дарога да Бога”.



**Людмила Кабылкова:** “Складана, але гэта яго права выбару. І калі б так склалася, то чаму не? Зямны паклон бацькам, якія выхавалі такіх дзяцей!”

**Мария Загорская:** “Молодой человек должен сам выбрать свою дорогу, сильным чувством Любви к Пану Богу быть готовым служить ему и людям. Пусть Наш Боже благославляет нашу молодежь, пусть в сердцах их будет сильная искра желания посвятить всю жизнь Богу!”.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Юлія Шпаковіч** *(Зямцы)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Курто В.П.** *(Луцк-Казлоўскі)*, **Лубнеўская М.З.** *(Мядзел)*, **Яўгенія Гунько** *(Барысаў)*, **Марына Рабецкая** *(Крэва)*, **Казімір Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Генадзь Лапушынскі** *(Коўзаны)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Кашчыц І.Г.** *(Ашмяны)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Марыя Вансовіч** *(Паставы)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Кашчыц І.Г.** *(Ашмяны)*, **Алена Сліжэўская** *(Буйкі)*, **Яўгенія Чарняўская** *(Парубкі)*, **Соф’я Кулік** *(Мікелеўшчына)*, **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Вяршэль** *(Вігушкі)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Рамейка Т.С.** *(Рамейкі)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Ганна Сапель** *(Браслаў)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Даната Варонька** *(Друя)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Віткоўская В.М.** *(Шудаўцы)*, **Алiцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **рух “Маці ў малітве”** *(Відзы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

# Ці будуць сужэнцы злучаныя ў небе?

***"З вучэння Касцёла вынікае, што чалавек бярэ шлюб, каб атрымаць Божае благаслаўленне на сямейнае жыццё і быць злучаным са сваім сужэнцам у Нябесным Валадарстве. Здараюцца выпадкі, калі адзін з сужэнцаў памірае значна раней, пакідаючы ўдаўца (удаву). З кім у Небе будзе злучаны ўдавец (удава), калі возьме другі шлюб?"***

"Езус сказаў ім: *"Дзеці гэтага веку жэняцца і выходзяць замуж. А тыя, хто будзе годны таго веку і ўваскрасення з мёртвых, не будуць ні жаніцца, ні выходзіць замуж, ні памерці ўжо не змогуць, бо яны роўныя анёлам і з'яўляюцца сынамі Божымі, будучы сынамі ўваскрасення"* (Лк 20, 34–36).

Шлюб для многіх людзей з'яўляецца пакліканнем. Яны знаходзяць у ім паўнату шчасця, школу любові, нанова вучацца бачыць прыгажосць у свеце.

Здараецца, некаторым людзям сэрца падказвае, што каханы чалавек, які адышоў у вечнасць, павінен заўсёды заставацца самым важным чалавекам у жыцці. Як правіла, гэта дыктуецца надзеяй на спатканне з каханым (-ай) у Божым Валадарстве.

Падчас шлюбу маладыя людзі прысягаюць, што не расстануцца ажно да смерці. Гэта сведчыць, што сакрамант сужэнства скончыцца ў зямным жыцці. Аднак гэта не азначае, што прыйдзе канец каханню.

У Касцёле ніколі не было сумневаў у тым, што любая сапраўдная любоў не толькі будзе трываць у вечным жыцці, але яшчэ ачысціцца і ўдасканаліцца. Спецыфічнасць і ўнікальнасць любові, якая злучае мужа і жонку, у Небе раскрываецца ва ўсёй сваёй для нас цяпер наогул няўяўнай прыгажосці.

Дык як жа будзе выглядаць любоў у Небе?

Мы будзем там жыць, як анёлы. Містыкі Касцёла кажуць, што анёлы жывуць у сяброўстве, любові і духоўнай блізкасці адно з адным у прысутнасці Бога. Нам складана гэта зразумець. На Нябёсах мы будзем сябраваць з усімі, у тым ліку з тымі, хто атрымаў сакрамант сужэнства. Жыццё гэтых людзей абапіралася на імкненні да дасканалага шчасця, таму яны там яго і знайшлі.

Св. Ян Златавуст напісаў, што ў Небе мы знойдзем іншае, лепшае яднанне ў Богу, чым у сужэнстве. Бог ёсць любоў, і ў вечнасці мы будзем напаўняцца ёю ў той ступені, каб стаць Яго часткай. Там адбудзецца яднанне адной душы з другой.

Такім чынам, хоць сужэнства заканчваецца на зямлі, яго працяг магчымы на Нябёсах.

***кс. Алег Кудэрка,***
*grodnensis.by*



## Паэтычны конкурс з нагоды адкрыцця капліцы праводзіць парафія ў Навагрудку

**З нагоды адкрыцця 29 чэрвеня 2019 года капліцы ў гарадскім пасёлку Любча парафія Святога Міхала Арханёла ў Навагрудку аб'яўляе паэтычны конкурс "Любчы з Божай ласкі прысвячэнне".**

**Час правядзення:** 15 мая – 15 чэрвеня 2019 года.

**Мэта конкурсу:**
- пазнанне гісторыі;
- духоўнае і патрыятычнае выхаванне.

Да разгляду прымаюцца ўласныя вершы на беларускай, рускай і польскай мовах. Конкурсныя працы павінны мець духоўны змест і быць прысвечанымі гістарычнаму мінуламу і сённяшняму дню Любчы. Гэта творы пра вернікаў, пра знакамітых асобаў і нашых сучаснікаў, пра хрысціянскія храмы, прыроду і культуру пасёлка.

Вызначаныя пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі.

Найлепшыя творы будуць надрукаваныя на старонках парафіяльнай газеты "Каталіцкі Навагрудак".

Вершы і кароткі аповед пра сябе неабходна даслаць **не пазней за 15 чэрвеня 2019 года** на адрас:
***г. Навагрудак, вул. Савецкая, 2,***
***Касцёл Святога Міхала Арханёла***
альбо на электронную пошту: ***faiushka@mail.ru***
Даведкі па тэлефоне: **+37529 787 15 89**.



# Ці можа некаталік спавядацца ў каталіцкага святара?

***"Хвала Хрысту! Паважаная рэдакцыя! Маю такое пытанне: ці можа некаталік спавядацца ў каталіцкага святара? Вялікі дзякуй.***
*Святлана".*

– Хвала Хрысту, шаноўная Святлана! Дзякуй Вам за цікавае пытанне.

Трэба з жалем прызнаць, што з кожным разам усё больш католікаў у свеце ставіцца з падазрэннем да сакраманту святой споведзі і ўвогуле занядбоўвае сваё рэлігійнае жыццё. Але ў той самы час знаходзяцца іншыя асобы, якія прымаюць каталіцкую веру. З радасцю можна сцвердзіць, што лічба католікаў у свеце за апошні год павялічылася амаль на 10%.

Апрача шматлікіх ласкаў, якія атрымліваюць вернікі падчас споведзі, вернікаў некаталіцкага веравызнання вельмі часта цікавіць факт атрымання псіхалагічнай палёгкі, калі яны распавядуць пра свае грахі каму-небудзь іншаму, і суцяшэння, калі чуюць словы малітвы адпушчэння грахоў.

Але ці можа некатолік стаць у чаргу да каталіцкага святара, каб атрымаць сакрамант паяднання, бо менавіта так, іншымі словамі, мы называем сакрамант святой споведзі? На гэтае пытанне нам дапаможа адказаць Кодэкс Кананічнага Права, які вельмі ясна кажа пра сакраманты ў Каталіцкім Касцёле.

Каб атрымаць правамоцна сакрамант святой споведзі ў каталіцкага святара, трэба знаходзіцца ў поўнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам, гэта значыць, быць католікам: "Служыцелі-католікі правамоцна ўдзяляюць сакраманты толькі католікам-вернікам, якія таксама правамоцна прымаюць іх толькі ад служыцеляў-католікаў" (кан. 844 §1).

У некаторых выпадках, напрыклад, праваслаўны вернік можа папрасіць аб сакраманце споведзі каталіцкага святара, бо ў Праваслаўнай Царкве існуюць тыя ж самыя сакраманты, і Каталіцкі Касцёл прызнае іх дзейснымі.

Кодэкс Кананічнага Права вызначае некаторыя выключэнні для ахрышчаных некатолікаў: "Калі існуе небяспека смерці або калі, на думку дыяцэзіяльнага Біскупа або Біскупскай Канферэнцыі, існуе іншая сур'ёзная неабходнасць, служыцелі-католікі могуць правамоцна ўдзяляць тыя ж сакраманты (споведзь, намашчэнне хворых, Эўхарыстыя) хрысціянам, якія не знаходзяцца ў поўнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам (некатолікам), якія не маюць магчымасці прыняць гэтыя сакраманты ад служыцеля ўласнай супольнасці і просяць аб іх удзяленні спантанна, пры ўмове, што ставяцца да гэтых сакрамантаў з каталіцкай верай і да гэтага добра падрыхтаваныя" (кан. 844 §4).

У асноўным каталіцкі святар можа ўдзяліць адпушчэнне грахоў некатоліку ў рэдкіх выпадках, напрыклад, у небяспецы смерці.

Хрысціяне-некатолікі, безумоўна, маюць права пры неабходнасці шукаць духоўную дапамогу таксама і ў каталіцкіх святароў. Каб атрымаць яе, думаю, дастаткова падысці да святара і дамовіцца з ім пра сустрэчу.

Той, хто практыкуе сваю веру, добра ведае, што споведзь з'яўляецца выключным сакрамантам, які вызваляе чалавека ад граху і адчыняе яму новы шлях.

Але, каб прыняць дар гэтага сакраманту ад каталіцкага святара, трэба належаць да Каталіцкага Касцёла.

*З малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***
*(афіцыял Біскупскага Суда)*



# Кто может участвовать в курсах для экзорцистов?

**Правда ли, что существуют курсы для экзорцистов? Кто может в них участвовать?**

В Риме, в Папском институте Regina Apostolorum, образовательные междисциплинарные курсы для экзорцистов проводятся с 2004 года. Основателем курсов является профессор Джузеппе Феррари. Тема экзорцизма рассматривается с точки зрения экклесиологии, богословия, литургии, катехетики, канонического права, а также медицины, психологии, криминологии, фармакологии и так далее. Образовательные встречи экзорцистов проходят и в других епархиях.

В 2014 году Святейший Престол одобрил устав Международной ассоциации экзорцистов, которая уже много лет организует съезды священников со всего мира, осуществляющих в своих епархиях служение экзорцизма.

Курсы, посвященные экзорцизму, проводятся не только для тех пресвитеров, которым поместные Церкви вверили это особое служение, но и для других священников, нередко сталкивающихся в своей пастырской работе с различными проявлениями дьявольского воздействия.

*Радио Ватикана*

### Хвала Хрысту!



*Віншуем са святам Уваскрасення Пана шаноўнага **біскупа Алега Буткевіча**, нашых паважаных святароў – **кс. Станіслава**, **кс. Адама**, **кс. Уладзіміра**, **кс. Лешака**, **сясцёр-эўхарыстак** і жадаем ім здароўя і шчодрых Божых ласкаў!*

***Вернікі касцёла Нараджэння Маці Божай (Браслаў)***

### Хвала Хрысту!

*3 мая **ксёндз Іван Кароткін** адзначыў пятую гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Паважаны ксёндз Іван! Прыміце шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцы духу і трываласці ў святарскім служэнні, мудрасці і разважлівасці, аптымізму, здзяйснення запаветных мараў!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*15 мая **ксёндз Генадзь Рэйшаль** адзначае 15-годдзе святарскага пасвячэння, а 26 мая – імяніны.*

*Паважаны ксёндз Генадзь! Жадаем Вам вытрымкі, радасці і Божага благаслаўлення. Няхай Дух Святы кожны дзень узмацняе Вас, каб нанова адкрывалі радасць і моц, што вынікаюць з Сакраманту Эўхарыстыі.*

***З пажаданнямі і малітвай, парафіяне з Шаркаўшчыны***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



***Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!***

*З нагоды 15-й гадавіны святарскага пасвячэння дасылаем Вам сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Найсвяцейшая Маці нястомна апякуецца Вамі! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і багатага плёну ад святарскага служэння, зычлівых людзей побач. Няхай добрая ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару, а шчодрае сэрца хай будзе заўсёды гатовае дзяліцца радасцю! Падарункам для Вас няхай будуць нашы шчырыя малітвы!*

***З павагай, сем'і Місевіч і Вяршэль***

### Паважаны ксёндз Віктар!

*Ад усяго сэрца віншую Вас са святам Вялікадня!*

*Шчыра жадаю Вам добрага здароўя на доўгія гады, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Уваскрослы Хрыстус вядзе Вас па дарозе, якую Вы выбралі, а Маці Божая з лідскай Фары хай заўсёды ахінае Вас сваёй чуйнай апекай!*

***Тэрэса з сям'ёй, г. Ліда***

### Шчыра віншуем!



*22 мая дзевяць гадоў таму святарскае пасвячэнне прыняў **ксёндз Вадзім Прасяной**, які цяпер нясе пастырскую паслугу ў парафіі касцёла Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі ў Паставах. З гэтай нагоды мы шчыра віншуем дарагога пробашча і жадаем, каб яго святарскі шлях, благаслаўлёны Богам, быў шчаслівым. Няхай Маці Божая штодзённа апякуецца Вамі, шаноўны ксёндз Вадзім, дае сілы і трываласці! Дзякуем за Божае слова, якое Вы засяваеце ў нашых сэрцах!*

***З удзячнасцю і шчырай малітвай, парафіяне***

### Хвала Хрысту!

*Наш пробашч **ксёндз Мікалай Ціхановіч** 14 мая адзначае Дзень нараджэння, а 19 мая – чарговую гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Шаноўны ксёндз Мікалай! Выказваем Вам падзяку за святарскую паслугу, за айцоўскі клопат, за прыклад веры! Жадаем Вам шчодрых дароў Духа Святога, нястомнай апекі Маці Божай, плённага святарскага служэння і простага чалавечага шчасця!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

### Хвала Хрысту!

*26 мая адзначае Дзень Пасвячэння ў святары наш **ксёндз Віталь Бяленік**.*

*Паважаны ксёндз Віталь! Мы вельмі рады, што Вы служыце Богу ў нашай парафіі.*

*Мы цэнім Вашу энергію, здольнасці, індывідуальнасць. Дзякуем Вам за тое, што запальваеце ў нашых сэрцах агонь любові да Бога, за мудрыя парады, за шчырыя казанні, за спагадлівасць і чуласць!*

*Дай, Божа, Вам моцнага здароўя, мудрасці, сіл, цярпення, Божай дапамогі і благаслаўлення ва ўсіх шматлікіх справах і пачынаннях!*

***Са словамі ўдзячнасці, вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста ў Падсвіллі***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны наш **ксёндз Андрэй Таўрук**! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння (13 мая)!*

*Ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень Вашага святарскага жыцця, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, натхнення, цярплівасці, добразычлівых людзей побач, багатага плёну на ніве Пана!*

***Вернікі парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах***

### Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншум Вас, паважаныя святары, з чарговай гадавінай святарства: **ксяндза-пробашча Станіслава Мжыглуда** (22 мая), **ксяндза Уладзіміра Шыдлоўскага** (26 мая), **ксяндза Адама Квяткоўскага** (28 мая), **ксяндза Лешака Вітвіцкага** (9 мая).*

*Жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, супакою! Няхай Бог вядзе вас простымі сцежкамі, а Яго дух жыве ў вашых сэрцах і ніколі не дазволіць забыцца пра тое, што ў святарскім жыцці самае важнае. Дзякуем вам за абвяшчэнне Божага слова, за мудрыя і павучальныя казанні, за прыклад моцнай веры, за цярплівасць і ахвярную працу ў нашай парафіі, а Богу дзякуем за Вас!*

***З малітвай, вернікі Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

# “Святой Беларусі зямля”

**На хвалі радаснага святочнага ўздыму прайшоў Вялікдзень у Паставах.**

**Ірына Філановіч**, *г. Паставы*

Незабыўным застанецца ў сэрцах вернікаў Крыжовы шлях, які адбыўся ад касцёла Антонія Падуанскага да месца будаўніцтва касцёла Езуса Міласэрнага.

Крыжовы шлях пачаўся з Імшы ў касцёле і закончыўся Імшой у капліцы. Знічы каля крыжа капліцы ўяўлялі сабой велічнае відовішча: агонь як сімвал жыцця дзякаваў Хрысту за веру, за любоў да жыцця, якое падарыў нам Пан.

На Вялікдзень у клубе па вуліцы Станкевіча адбыўся канцэрт народнай эстраднай групы “25 ± 25” пад назвай “Мая маленькая радзіма”. У першай частцы канцэрта гучалі песні пра нашу Радзіму – Беларусь, пра родны кут, родную вёску. Гэта нікога не пакінула абыякавым у глядзельнай зале.

У другой частцы спяваліся песні нашых землякоў – кампазітараў і паэтаў. Асаблівае захапленне выклікала песня “Чырвонае віно” на словы Вольгі Лісіцкай, якую выканала Алена Крывіцкая. Прыемна было слухаць песню “Смолка на лузе” (словы Ніны Захарэвіч, музыка Аляксандра Бялова). Песня на словы гэтай жа паэткі і на музыку Мікалая Карпенкі “Прыязджайце да нас у Паставы” стала сапраўдным гімнам на фестывалях “Звіняць гармонік і цымбалы”.

У трэцяй частцы гучалі мелодыі з рэпертуару “Песняроў”, якія выканалі Эла Панавас, Марына Вайцяховіч, Аляксей Конанаў, Пётр Кароль. Раз-пораз чуліся віншаванні са святам Вялікадня пад гучныя апладысменты прысутных. Гледачы адчулі прыгажосць сапраўднай беларускай мовы. Дзе яшчэ пачуеш такія мілагучныя словы: бацькоўская хата, матуля, васільковая казка, родны край, васільковыя далі, зорачка мая і г.д.! А цудоўныя імёны Ясь, Іванка, Яніна, Станіслава няхай гучаць не толькі ў песнях!

Прысутныя атрымалі вялікую асалоду, а святочны настрой яшчэ больш узняўся. Год малой радзімы і такія мерапрыемствы садзейнічаюць адраджэнню духоўных каштоўнасцяў беларускай нацыі, вяртанню страчанай любові да роднага слова, усведамленню адказнасці кожнага за сённяшні і заўтрашні дзень Беларусі.

Таму хочацца сказаць артыстам, мастакуафармляльніку, супрацоўнікам клуба вялікі дзякуй!



# Святые подростки, которые могут вдохновить современную молодёжь

**В этом списке – "компьютерный гений", "душа компании" и "мудрое дитя".**

Читая о жизни святых, мы иногда бываем обескуражены, не обнаружив среди них никого, кто был бы хоть немного похож на нас. Может показаться, что только пожилые священники да старые монахини могут быть святыми. Как будто святость, это только для тех, кто дожил до седых волос в монастыре!?

Однако это не имеет ничего общего с реальностью. Папа очень ясно указывает на это в своём Апостольском послании Gaudete et Exsultate ("Радуйтесь и веселитесь"): "Для того, чтобы стать святым, вовсе не нужно становиться епископом, священником или уходить в монастырь. Мы часто склонны думать, что святость предназначена только для тех, кто может отрешиться от обычных дел, чтобы проводить всё своё время в молитве. Но это совсем не так. Мы призваны быть святыми, проживая жизнь с любовью и свидетельствуя о своей вере, чтобы мы ни делали, и везде, где бы мы ни находились".

Совсем молодые люди могут становиться святыми, хотя мы часто думаем, что как раз для них это и невозможно. А ведь их рвение и энергия, направленные к верной цели, могут изменить мир.

Вот трое подростков, которые показывают, что святость возможна для всех, и что Бог может использовать дары и таланты молодых к Своей вящей славе.

### Бл. Кьяра Бадано



Кьяра была в своём классе "душой компании", окружённая множеством друзей. Она с удовольствием занималась спортом, пела, танцевала, допоздна засиживалась с друзьями. В 17 лет её парализовало, и она отдала Богу всё, сказав: "Всё – Тебе, Иисус. Если так хочешь Ты, то и я хочу так". В 18 лет она умерла от рака со словами: "До свидания. Будьте счастливы, потому что я счастлива".

### Слуга Божий Карло Акутис



Карло любил компьютеры и мастерски использовал их для распространения веры. Один из самых значительных его компьютерных проектов – это всемирный каталог Евхаристических чудес. Он сказал: "Чем чаще мы приступаем к Евхаристии, тем больше мы становимся похожими на Иисуса, так что уже на земле мы можем почувствовать вкус Неба". Он умер в 15 лет от лейкемии.

### Слуга Божия Анна Зеликова



Анна была обычным подростком и очень любила Иисуса. Она написала: "Настоящая красота кроется в верности в маленьких вещах. Мне всегда хотелось сделать что-нибудь великое и героическое, и когда я видела, что не способна на это, то страшно огорчалась. А теперь я нашла самый настоящий героизм в совсем маленьких вещах, и у меня больше нет никакого сожаления из-за того, что я не могу сделать чего-то большего". Она умерла в 17 лет от туберкулёза.

*Перевод рускатолик.рф с англ. Aleteia*

# Цяжкія пытанні: выбары і няправедныя законы

**Ці можна католіку галасаваць за партыю, якая не збіраецца адмяняць закон, які супярэчыць закону Божаму?**

У палітычным жыцці вернік закліканы па меры сваіх магчымасцяў прасоўваць дабро і вынішчаць зло. Калі ж немагчыма выкараніць зло, трэба старацца зрабіць усё, каб пазбегнуць яшчэ большага зла. Галасавац за тыя партыі, якія не займаюцца напрамую адменай закона, якое супярэчыць Богу, дапушчальна ў тым выпадку, калі яны не лічаць гэты закон дабром, але лічаць немагчымым яго адмену ў дадзены момант.

Прывядзём тут цытату з энцыклікі Папы Ян Паўла II Evangelium Vitae: "Калі няма магчымасці адпрэчыць законапраект або адмяніць закон аб перапыненні цяжарнасці, то парламентарый, чыё абсалютная асабістае супрацьстаянне перапынення цяжарнасці відавочна і ўсім вядома, паступіць правільна, падтрымаўшы прапановы, мэта якіх - абмежаваць шкоду падобнага закона і паменшыць яго адмоўныя наступствы ў сферы культуры і грамадскай маральнасці. Бо, паступаючы так, ён не саўдзельнічае недазволеным чынам у прыняцці няправеднага закона, а, наадварот, прадпрымае правільную і годную спробу абмежаваць яго шкодныя аспекты".

На гэтую тэму выказалася таксама Кангрэгацыя Веравучэння ў дактрынальным тлумачэнні "Удзел католікоў у палітычным жыцці" (2002 года), цытуючы прыведзены вышэй параграф з энцыклікі.



*Вольга Сакун,*
*руская рэдакцыя Vatican News*

*Пераклад*
***Змітра Лупача***

# Орша запрашае на V Парафіяду дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі

**Яна пройдзе з 7 па 10 жніўня 2019 года. Яе тэматыка – "Разам да святасці!"**

Спаборніцтвы будуць прысвечаны святкаванням 20-годдзя заснавання Віцебскай дыяцэзіі, 10-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Браслаўскай, 5-годдзя Парафіяды дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі.

**Узрост удзельнікаў** – 10-17 гадоў, запіс – да 10 ліпеня, **месца правядзення** – г. Орша.

**ПАРАФІЯДА – ГЭТА ФАРМАЦЫЯ ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ НАШАЙ ДЫЯЦЭЗІІ ПАВОДЛЕ ТРЫЯДЫ: СТАДЫЁН – ТЭАТР – СВЯТЫНЯ.** Падчас Парафіяды дзеці і моладзь вучацца жывой размове з Богам з дапамогай малітвы, адкрываюць у сабе камандны дух адзінства і ўзаемнай павагі, ствараюць сапраўдную сям'ю Божых дзяцей, імкнуцца не столькі перамагаць, колькі дапамагаць, быць вернымі і адкрытымі на патрэбы іншых.

Сёлета праводзіцца пятая, юбілейная Парафіяда. **З гэтай нагоды будзе шмат неспадзяванак.** Апрача традыцыйных спартыўных (футбол, валейбол, бег, скачкі, шашкі, басейн) і тэатральных спаборніцтваў, у гэтым годзе плануецца пашырыць фармат (дартс, шахматы, біятлон (стрэльбы), баскетбол, парны настольны тэніс, гульня "Што? Дзе? Калі?", танцы, майстэрня).

**А яшчэ ў праграме** – сустрэчы з беларускімі чэмпіёнамі алімпійскіх і параалімпійскіх гульняў, рознымі каталіцкімі гуртамі, экскурсіі, камандныя і асабістыя ўзнагароды, спецыяльныя падарункі. За першае месца каманда атрымае адпачынак і ўдзел у Міжнароднай парафіядзе ў Польшчы і іншыя сюрпрызы. Вялікая просьба да ўдзельнікаў, якія мелі магчымасць быць кожны год разам з намі на Парафіядзе, – прывезці з сабою атрыбутыку (майка + значок + кепка + хустка-бандана). Спецыяльная намінацыя: пастаянны ўдзельнік Парафіяды.

### Хатняе заданне:

ВІЗІТНАЯ КАРТКА – кожная каманда прадстаўляе сваю парафію пад назвай святога, шанаванага ў сваёй парафіі (тэма: "Святыя нашай парафіі") – не больш за 10 хвілін. Просім назвы каманд даслаць раней разам са спісам удзельнікаў Парафіяды.

КОНКУРС РЭЛІГІЙНАЙ ПЕСНІ – (тэма: "Шлях да святасці") розныя намінацыі: асабісты і камандны выступ (вакал, дуэт і г.д.).

ІНСЦЭНІЗАЦЫЯ – (тэма: "Молімся са святымі") – не больш за 15 хвілін. Камандная ўзнагарода.

Тэставанне з нагоды 20-годдзя нашай дыяцэзіі, тэма: "Мая Віцебская дыяцэзія" (заснаванне, дыяцэзіяльныя структуры, санктуарыі) – 45 хвілін.

**Крытэрыі незалежных суддзяў:** актыўны удзел паводле трыяды: стадыён – тэатр – святыня, духоўнасць, каманднае адзінства, сувязь выступаў з тэматыкай Парафіяды, пажадана беларуская мова, адпаведны час, дыжур (адказнасць) у розных сферах, крэатыў.

Арганізатары Парафіяды вельмі ўдзячныя парафіям з Варапаева і Глыбокага, а сёлета, спадзяёмся, падзякуем і Лынтупам за ўдзел у Міжнароднай парафіядзе ў Варшаве, дзе дзеці і моладзь адзначыліся малітоўным духам, адзінствам і прыкладам добрага хрысціяніна.

**Арганізатары Парафіяды гарантуюць:** харчаванне, начлег (бялізна не патрэбна), медычную апеку, узнагароды, незабыўную праграму.

Просьба да патэнцыйных удзельнікаў Парафіяды як найхутчэй паведаміць пра свой удзел (электронная пошта; спіс і назва каманды: напр., каманда св. Антонія, Віцебск. Імя, прозвішча, дата нараджэння, адрас кожнага ўдзельніка). Пасля рэгістрацыі вы атрымаеце больш падрабязную праграму. Просьба не зацягваць з запісам (**толькі да 10 ліпеня**).

**Кантакты: +375292169982 – кс. Валеры; +375333726846 – кл. Алег; parafiadavd@mail.ru**

# Папа Францішак зацвердзіў новыя нормы барацьбы са злоўжываннямі ў Касцёле



**Новы дакумент Папы ў форме motu proprio *"Vos estis lux mundi" ("Вы – святло свету")* зацвярджае працэдуры, неабходныя, каб сігналізаваць пра выпадкі сексуальных дамаганняў і гвалту ў Касцёле.**

9 мая Святы Пасад афіцыйна прадставіў новы ўніверсальны збор нормаў, распрацаваны па выніках нарады па абароне непаўналетніх, якая прайшла ў Ватыкане ў лютым гэтага года. Ён распаўсюджваецца на ўвесь Каталіцкі Касцёл. Дакумент зацвярджае працэсуальныя нормы барацьбы з сексуальнымі злоўжываннямі і павінен служыць гарантам таго, што біскупы і вышэйшыя настаяцелі манаскіх кангрэгацый разумеюць сваю адказнасць і сутнасць уласных учынкаў.

*"Vos estis lux mundi", "Вы – святло свету"...* Наш Пан Езус Хрыстус заклікае кожнага верніка быць яскравым прыкладам цноты, чысціні і святасці" – такімі словамі распачынаецца дакумент. Евангелле паводле святога Мацвея паслужыла крыніцай натхнення для назвы і першых радкоў новага motu proprio Францішка. Апостальскае пасланне прысвечана барацьбе з сексуальнымі злоўжываннямі, здзейсненымі святарамі і манаскімі асобамі, а таксама з учынкамі або занядбаннямі біскупаў і вышэйшых настаяцеляў, ***"накіраванымі на стварэнне перашкоды або ўхіленне"*** ад следства па справах злоўжыванняў.

Папа падкрэслівае, што ***"сексуальныя злоўжыванні зневажаюць Нашага Пана, наносяць фізічную, псіхалагічную і духоўную шкоду ахвярам і абражаюць супольнасць вернікаў"***. Пантыфік нагадвае пра асаблівую адказнасць, якую нясуць паслядоўнікі Апосталаў за прадухіленне такіх злачынстваў.

### У кожнай дыяцэзіі – адзінае "акенца" для паведамлення пра выпадкі злоўжыванняў

Сярод прадугледжаных новаўвядзенняў – абавязак кожнай дыяцэзіі свету распрацаваць да чэрвеня 2020 г. ***"адну або некалькі пастаянных і лёгкадаступных для грамадскасці сістэм сігналізавання"*** пра выпадкі сексуальных злоўжыванняў, здзейсненых святарамі або манаскімі асобамі, пра карыстанне матэрыяламі педафілійнапарнаграфічнага характару і пра замоўчванне саміх выпадкаў злоўжыванняў. У той жа час дакумент не ўдакладняе, што павінны ўяўляць сабой гэтыя "сістэмы", каб пакінуць за дыяцэзіямі магчымасць найбольш эфектыўнага выбару ў залежнасці ад мясцовай культуры і ўмоў. Галоўнае, каб асобы, якія пацярпелі ад сексуальнага гвалту, маглі звярнуцца ў мясцовы Касцёл і былі ўпэўнены ў тым, што будуць добра прынятыя і абароненыя ад выкарыстання прадстаўленых звестак супраць іх жа саміх і што іх інфармацыя будзе ўспрынята з максімальнай сур'ёзнасцю.

### Абавязак сігналізаваць

Наступнае новаўвядзенне датычыць абавязку ўсіх святароў і манаскіх асоб "своечасова сігналізаваць" каталіцкім уладам пра ўсе выпадкі злоўжыванняў, пра якія ім становіцца вядома, а таксама пра магчымыя занядбанні і замоўчванні ў справах, што датычаць такіх злачынстваў. Калі да гэтага часу адпаведны абавязак па сутнасці суадносіўся толькі з асабістай свядомасцю кожнага чалавека, то цяпер ён набыў характар універсальнага юрыдычнага прадпісання. Папскі дакумент ускладае гэты абавязак на святароў і манаскіх асоб, аднак у той жа час заахвочвае і ўсіх свецкіх вернікаў пры неабходнасці карыстацца сістэмай сігналізавання кампетэнтным каталіцкім уладам пра выпадкі сексуальных злоўжыванняў і дамаганняў.

### Не толькі злоўжыванні ў дачыненні да непаўналетніх асоб

Дакумент ахоплівае не толькі выпадкі сексуальнага гвалту і дамаганняў у адносінах да непаўналетніх асоб і ўразлівых дарослых, але і адпаведныя выпадкі, выкліканыя злоўжываннем уладай. Гаворка ідзе пра любыя факты гвалту над манаскімі асобамі з боку святароў, а таксама пра дамаганні ў дачыненні да семінарыстаў або навіцыяў.

### Замоўчванне

Сярод найбольш важных адметнасцяў дакумента – устанаўленне ў якасці асобнай катэгорыі выпадкаў так званага замоўчвання, што заключаецца ва ***"ўчынках або занядбаннях, накіраваных на чыненне перашкоды ці пазбяганне грамадзянскага або кананічнага, адміністратыўнага або крымінальнага пераследу ў дачыненні да святара або да манаскай асобы ў сувязі са злачынствам"*** сексуальнага характару. Гаворка ідзе пра тых, хто, надзелены пазіцыяй асаблівай адказнасці ў Каталіцкім Касцёле, замест таго каб выкрываць учыненыя іншымі акты сексуальнага гвалту, хаваюць іх, пакрываючы магчымыя злачынствы, замест таго каб абараняць іх ахвяр.

### Абарона ўразлівых асоб

Апостальскае пасланне *"Vos estis lux mundi"* робіць акцэнт на важнасці абароны непаўналетніх (якія яшчэ не дасягнулі 18-гадовага ўзросту) і ўразлівых асоб. Дарэчы, значэнне паняцця "ўразлівая асоба" ў дакуменце больш шырокае і ахоплівае не толькі людзей, няздольных да "звыклага карыстання" розумам, але і асобныя, часовыя выпадкі нядольнасці разумець і аб'ектыўна ацэньваць рэальнасць, а таксама фізічную недзеяздольнасць. У гэтым пытанні новы дакумент пераклікаецца з нядаўна прынятым ватыканскім Законам *(№ CCXCVII ад 26 сакавіка 2019 г.)*.

### Выкананне дзяржаўных законаў

Абавязак сігналізаваць пра выпадкі сексуальнага злоўжывання ардынарыю мясцовасці або вышэйшаму настаяцелю манаскага ордэна не супярэчыць і не відазмяняе ніякі іншы абавязак данясення, што існуе ў законах адпаведных краін: нормы ***"прымяняюцца без урону для правоў і абавязкаў, устаноўленых у той ці іншай мясцовасці дзяржаўнымі законамі, асабліва тых, што датычаць абавязкаў сігналізаваць кампетэнтным грамадзянскім уладам"***.

### Абарона тых, хто сігналізуе, і саміх ахвяр сексуальных злачынстваў

Сутнаснымі з'яўляюцца таксама артыкулы, прысвечаныя абароне тых, хто сігналізуе пра выпадкі злоўжыванняў. Асобы, якія паведамляюць пра выпадкі гвалту, згодна са зместам motu proprio, не могуць быць падвергнутыя ***"перадузятасці, выкарыстанню прадстаўленых звестак супраць іх саміх або дыскрымінацыі"*** па прычыне здзейсненага данясення. Увага звяртаецца таксама на праблему ахвяр злоўжыванняў, якія ў мінулым былі змушаныя захоўваць маўчанне: новыя ўніверсальныя нормы прадугледжваюць недапушчэнне іх прымушэння да маўчання адносна зместу данясення. Натуральна, тайна споведзі застаецца безагаворачнай і непарушнай, а таму, адпаведна, ніякім чынам не ахопліваецца зместам новых нарматываў. Акрамя таго, ***"Vos estis lux mundi"*** ўстанаўлівае, што да ахвяр і іх сем'яў трэба ставіцца годна і паважліва. Яны павінны атрымліваць належную духоўную, медыцынскую і псіхалагічную дапамогу.

### Следства ў дачыненні да біскупаў

Дакумент рэгулюе следства ў дачыненні да біскупаў, кардыналаў, вышэйшых настаяцеляў і тых, хто на той ці іншай падставе, нават калі і часова, кіруе дыяцэзіяй або іншым партыкулярным Касцёлам. Адпаведны нарматыў павінен выконвацца не толькі ў выпадках, калі пералічаныя вышэй асобы падпадаюць пад следства ў сувязі з абвінавачваннем у непасрэдным здзяйсненні акту сексуальнага злоўжывання, але і тады, калі яны абвінавачваюцца ў замоўчванні або нежаданні выкрываць выпадкі злоўжыванняў, пра якія даведаліся і якім павінны былі супрацьстаяць.

### Роля Мітрапаліта

Сутнасным з'яўляецца новаўвядзенне, якое датычыць далучэння да папярэдняга следства Мітрапаліта, каторы атрымлівае з боку Святога Пасаду мандат на правядзенне следства ў выпадку, калі асоба, на якую было здзейснена данясенне, з'яўляецца біскупам. Роля Мітрапаліта, традыцыйная ў Каталіцкім Касцёле, узмацняецца і сведчыць пра жаданне выкарыстоўваць у тым ліку і мясцовыя рэсурсы ў пытаннях, якія датычаць следства адносна біскупаў. Упаўнаважаны весці следства праз трыццаць дзён пасля яго распачацця перадае Святому Пасаду ***"афіцыйнае паведамленне адносна стану следства"***, каторае ***"павінна быць завершана на працягу дзевяноста дзён"*** (па "сур'ёзных прычынах" магчымая адтэрміноўка). Такім чынам, устанаўліваецца дакладны тэрмін для правядзення следства, і ўпершыню ад задзейнічаных ватыканскіх дыкастэрый патрабуецца своечасовае рэагаванне.

### Далучэнне свецкіх вернікаў

Спасылаючыся на Кодэкс кананічнага права, які падкрэслівае каштоўны патэнцыял свецкіх вернікаў, нормы motu proprio прадугледжваюць, што Мітрапаліт, ажыццяўляючы следства, можа карыстацца дапамогай "кваліфікаваных асоб", калі таго патрабуе канкрэтны выпадак, ***"улічваючы супрацоўніцтва, якое могуць прапанаваць свецкія вернікі"***. Папа неаднаразова падкрэсліваў, што спецыялізацыі і прафесійныя здольнасці свецкіх вернікаў уяўляюць сабой важны рэсурс для Каталіцкага Касцёла. Прынятыя нормы прадугледжваюць, што біскупскія канферэнцыі і дыяцэзіі змогуць падрыхтаваць спісы кваліфікаваных асоб, гатовых да супрацоўніцтва, аднак канчатковую адказнасць за следства нясе Мітрапаліт.

### Прэзумпцыя невінаватасці

Новы дакумент пацвярджае прынцып прэзумпцыі невінаватасці асобы пад следствам, каторая будзе апавешчана пра правядзенне следства, як толькі кампетэнтная дыкастэрыя агучыць адпаведнае патрабаванне. Абвінавачванне павінна быць у абавязковым парадку аб'яўлена толькі ва ўмовах афіцыйнага распачацця следчага працэсу і, калі будзе палічана дарэчным для забеспячэння цэласнасці следства або доказаў, можа быць прапушчана на папярэднім этапе.

### Завяршэнне следства

Дакумент не ўносіць змен у меры пакарання, прадугледжаныя за злачынствы, але зацвярджае працэдуру сігналізавання і ажыццяўлення папярэдняга следства. Пасля завяршэння следства Мітрапаліт (або ў пэўных выпадках біскуп суфраганнай дыяцэзіі, які мае найбольшы тэрмін біскупскай паслугі) прадстаўляе вынікі кампетэнтнай ватыканскай дыкастэрыі і тым самым завяршае сваё заданне. Кампетэнтная дыкастэрыя працягвае працэс ***"згодна з правам, як прадугледжана для канкрэтнага выпадку"***, на аснове ўжо існых кананічных нормаў. Кіруючыся вынікамі папярэдняга следства, Святы Пасад можа неадкладна прымяніць да асобы пад следствам прэвентыўныя і абмежавальныя меры.

### Канкрэтнае абавязацельства

Новым юрыдычным інструментам, які ініцыяваў Папа Францішак, Каталіцкі Касцёл робіць яшчэ адзін рашучы крок у напрамку папярэджвання і супрацьстаяння сексуальным злоўжыванням, робячы акцэнт на канкрэтныя дзеянні. Як піша Пантыфік на пачатку дакумента, ***"каб падобны феномен ва ўсіх яго формах больш не меў месца, неабходна беспярэпыннае і глыбокае навяртанне сэрцаў, пацверджанае канкрэтнымі і эфектыўнымі справамі, якія б аб'ядноўвалі ўсіх у Каталіцкім Касцёле"***.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

У гэтым нумары хочам пазнаёміць Вас з гісторыяй Майсея - аднаго з вялікіх пракрокаў. Пачатак гісторыі Майсея ты можаш прачытаць на старонках Біблії ў Кнізе Зыходу 2 глава.

## заданне №1

Каб добра выканаць заданне, прачытай урывак з кнігі Зыходу 2, 1-7.

Аднойчы на рацэ дачка фараона заўважыла кошык, які заблытаўся ў трыснягу. Там плакала маленькае дзіцятка. Дапамажы дачцэ фараона, прайшоўшы лабірынт, хутчэй забраць кошык з дзіцяткам.



## заданне №2

Дачка фараона, знайшоўшы дзіця ўзяла яго сабе на выхаванне, і назвала Майсей. Ці ведаеш ты, што азначае гэтае імя? У кнізе Зыходу 2, 10 знойдзеш правільны адказ.

**Выберы правільны варыянт.**

Майсей азначае:

А) Занесены ветрам; Б) Узяты з вады (Выцягнуты); В) Які бяжыць па хвалях

Размалюй малюнак згодна з фігуркамі, якім адпаведае пэўны колер.



## заданне №3

Аднойчы, калі Майсей ужо быў дарослым, ён убачыў як егіпцянін б'е ізраільцяніна, і заступіўся за ізраільцяніна. Падрабязней аб гэтай гісторыі прачытай у кнізе Зыходу 2, 11-15. Знайдзі сем адрозненняў на малюнках.

Запішы з якога народу паходзіў сам Майсей.

АДКАЗ: ____________________





## заданне №4

Майсей напалохаўся гневу фараону і ўцёк у зямлю Мадыямскую. Падрабязней прачытай аб жыцці Майсея ў зямлі Мадыямскай у кнізе Зыходу 2, 15-25. Ці ведаеш ты, кім працаваў там Майсей? Калі разгадаеш рэбус, даведаешся адказ.

1. 
2. 
3. 
4. 
5. 
6. 
7. 
8. 

Адказ: ____________________

## Святая Моніка



Святая Моніка нарадзілася ў 331 г. у Тагасце (Алжыр). Яна ў маладым узросце выйшла замуж і навярнула свайго мужа-язычніка ў хрысціянства. У іх было трое дзяцей, якіх Моніка выхоўвала ў веры. Яна вельмі перажывала за свайго сына Аўгустына, калі бачыла, як ён падчас вучобы ў Карфагене пачаў аддаляцца ад Хрыста і не рэагаваў на просьбы маці прыняць хрост. Аднак Моніка не пакідала надзеі і, паўсюль следуючы за сынам, увесь час малілася за яго, пакуль у 387 г. Аўгустын не навярнуўся і быў ахрышчаны. Моніка памерла ў Остыі (Італія) у кастрычніку 387 г. А яе сын Аўгустын быў таксама далучаны да ліку святых. Успамін святой Монікі Касцёл адзначае за дзень да ўспаміну святога Аўгустына. Святая Моніка з'яўляецца апякункаю жанчын і хрысціянскіх маці, якія праз яе заступніцтва просяць збаўлення душаў сваіх дзяцей. Святая Моніка пакінула нам прыгожы прыклад ціхай і пакорнай малітвы, якая мае свае плады.

Успамін 27 жніўня.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна****; ідэя:* ***Вікторыя Колзун***



# Будслаўскі фэст – 2019.

## Праграма ўрачыстасцяў

**Сёлетнія ўрачыстасці, якія 5 – 6 ліпеня пройдуць у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай, упершыню будуць адзначацца як прызнаная ЮНЕСКА частка нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва.**

Дэвіз Будслаўскага фэсту – 2019 – "Каралева сем'яў, маліся за нас!" – суадносіцца з тэмай душпастырскага году, абвешчанай Канферэнцыяй Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі: "Сям'я – крыніца радасці і надзеі моладзі".

### Праграма

### 5 ліпеня

**13.00 – 17.00** – сустрэча і прывітанне пілігрымаў новым кусташам санктуарыя.
**18.00** – Св. Імша з удзелам новапрэзбітараў.
**20.00** – Акафіст у суправаджэнні хору Грэка-Каталіцкай Царквы.
**20.30** – Марыйныя Нешпары.
**21.30** – рахунак сумлення.
**22.00** – прэзентацыя сямейных рухаў Беларусі.
**23.30** – працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай.

### 6 ліпеня

**0.00** – Св. Імша з працэсіяй са свечкамі.
**2.00** – моладзевая праграма ў намётавым мястэчку.
**2.00** – Боская Літургія паводле грэка-каталіцкага абраду перад абразом Маці Божай.
**4.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.
**5.30** – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі.
**6.00** – Фацімскі ружанец.
**7.30** – Св. Імша перад абразом Маці Божай (на польскай мове).
**8.30** – прэзентацыя рады па справах сям'і пры ККББ.
**10.00** – урачыстая Св. Імша і Эўхарыстычная працэсія з заключным бласлаўленнем.

На працягу ўсяго фэсту святары чакаюць з паслугай споведзі ў канфесіяналах базылікі і на адкрытым паветры.

*Catholic.by*

## Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

**Больш навін, здымкаў і відэа на**
**Catholicnews.by**

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – Б; 3 – В; 4 – Б; 5 – Б; 6 – В; 7 – Б; 8 – А

# Летняя школа касцельнага спеву пройдзе ў Браславе ў жніўні

**З 12 па 17 жніўня 2019 года ў Браславе адбудзецца летняя школа касцельнага спеву. Мастацкі кіраўнік – Уладзімір Неўдах.**

**У праграме:**
1. Пастаноўка голасу для харыстаў і кантараў.
2. Супольны харавы спеў.
3. Тэорыя і практыка касцельнага спеву.
4. Гісторыя касцельнай музыкі (факультатыў).

Прыняць удзел у Тыдні касцельных мерапрыемстваў запрашаюцца парафіяльныя хары, вакалісты, усе, каму падабаецца касцельны спеў і музыка (музычная адукацыя не абавязковая, узрост неабмежаваны). Музыкантаў арганізатары просяць мець свае музычныя інструменты.

**Рэгістрацыя ўдзельнікаў 12 жніўня ад 15 гадзіны** (будынак насупраць касцёла). **Пачатак заняткаў – а 17.00.**

Удзельнікі атрымаюць неабходны нотны матэрыял. Арганізатары забяспечваюць начлегі і харчаванне, але просяць па магчымасці мець спальнік.

Кульмінацыя тыдня заняткаў – спеў падчас св. Імшы 17 жніўня на галоўнай урачыстасці Маці Божай Валадаркі Азёраў.

Па пытаннях удзелу і запісу звяртацца: **+375297157342** або **agniinna@mail.ru** – арганістка Іна Сапун.

Ці на адрас:
***Парафія Нараджэння Маці Божай, вул. Савецкая, 1. 211970 г. Браслаў, Віцебская вобл.***
тэл./факс **+375215365236**
**+375297105037** – кс. Станіслаў Мжыглуд SDS, пробашч.

Папярэдні запіс абавязковы.



# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасланць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;
*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;
*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!



***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2987

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.05.2019 г. у 10.25

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь